

*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 23 лістапада 1990 г. № 47 (3561) ● Цана 10 кап.


## «ЧАЦВЁРТАЯ ЎЛАДА»: ПРАВЫ І АБАВЯЗКІ

**Камісія ВС БССР па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека распрацоўвае заканадаўства аб друку**

АБВЯШЧЭННЕ суверэнітэту Беларусі, перавод эканомікі на рыначныя рэйкі, іншыя рэаліі нашага зменлівага жыцця спараджаюць сапраўдны заканадаўчы «бум». На разгляд чарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі, якая адкрыецца 5 снежня, мяркуецца вынесці некалькі дзесяткаў юрыдычных актаў, у большасці сваёй — першаступеннага значэння. Іх падрыхтоўкай і занятыя цяпер дэпутаты. Важнасць гэтай працы нікольні не меншае ад таго, што яна — чарнавая, невідовішчная для фота- і тэлеаб'ектываў. Менавіта на гэтай стадыі, пад час работы ў дэпутацкіх камісіях, закладаецца якасць будучых законаў, шмат у чым вызначаецца іх лёс: застануцца яны на паперы альбо натуральна ўвойдуць у жыццё грамадства, падтрымаюць у ім пазітыўныя зрухі.

**Навошта даводзіць банальныя ў прынцыпе рэчы? Ды таму, што час не спрыяе нармальнай заканатворчай дзейнасці. Зарад адмоўнай электрычнасці, што назапашваецца сярод людзей, незадаволенасць жыццём, якое пайшло ўраздроб, робіцца сёння «казырнай картай» палітычных гульняў, уплывовым фактарам барацьбы за ўладу. Хто і куды скіруе раздражнёнасць чалавека, апошнія чаравікі якога раптам запрасілі кашы, а новыя, фігуральна кажучы, не купіць і не ўкрасці? Не можа не трывожыць той факт, што ў якасці своеасаблівага громаадводу для сацыяльнай напружанасці рэакцыя выкарыстоўвае дэпутацкі корпус, найперш яго дэмакратычную частку. Маўляў, яны там няспынна засядаюць, марнуюць час, а жыццё пагаршаецца... Але, думаецца, менавіта патуранне такім настроям, іх мэтанакіраванае распальванне і трэба кваліфікаваць як «антысавецкую дзейнасць» — гэта значыць, скіраваную супраць Саветаў, канстытуцыйных і поўнаўладных органаў.**

ЗАКАНАТВОРЧАЯ дзейнасць Вярхоўнага Савета рэспублікі пастаянна знаходзіцца ў полі зроку «ЛіМа». Мы ўжо знаёмілі чытачоў з тымі падыходамі, якія закладаюцца ў аснову новай беларускай Канстытуцыі, друкавалі праект закона аб культуры... 19 лістапада мне давялося прысутнічаць на першым пасяджэнні рабочай групы па выпрацоўцы праекта Закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі». Вёў пасяджэнне старшыня камісіі ВС БССР па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека І. Каратчэня.

Дэпутат А. Вярцінскі, які прадстаўляў законапраект, адзначыў, што гэты акт мае на мэце абвясціць свабоду друку і іншых сродкаў масавай інфармацыі як адну з форм рэалізацыі права грамадзяніна на свабоду слова і свабоду інфармацыі; вызначыць прававыя, арганізацыйныя і сацыяльныя асновы дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі; адрэгуляваць іх адносіны з дзяржаўнымі органамі і ўстановамі, з палітычнымі партыямі і грамадскімі арганізацыямі, з грамадзянамі; акрэсліць грамадскі і юрыдычны статус, правы і абавязкі журналістаў як асноўнага суб'екта сродкаў масавай інфармацыі. Мяркуецца, што далейшая праца над праектам павінна весціся паралельна з падрыхтоўкай законаў «Аб свабодзе слова» і «Аб свабодзе інфармацыі».

**Праект рэспубліканскага заканадаўства аб друку ўлічвае вопыт аналагічных актаў, прынятых ужо на саюзным узроўні, у прыбалтыйскіх рэспубліках, Малдове, а таксама вопыт некаторых замежных краін сталай дэмакратыі. Адметнасцю з'яўляецца тое, што наш праект безумоўна грунтуецца на Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, адпаведна вызначаючы прыярытэтнасць беларускага друку.**

**Нягледзячы на тое, што гэта было першае пасяджэнне рабочай групы, абмеркаванне адбылося грунтоўнае і зацікаўленае. І гэта натуральна, бо ўдзельнічалі ў ім пераважна практыкі, людзі, непасрэдна звязаныя з дзейнасцю сродкаў масавай інфармацыі — журналісты, рэдактары, выдаўцы, прадстаўнікі творчых саюзаў. У выступленнях пісьменніка Б. Сачанкі, намесніка старшыні Дзяржкамдруку БССР С. Нічыпаровіча, галоўнага рэдактара часопіса «Беларусь» А. Шабаліна, народных дэпутатаў І. Герасюка, С. Навумчыка, Я. Глушкевіча, старшыні Рады СП Беларусі В. Зуёнка і іншых выказваліся заўвагі як канцэптуальнага, так і прыватнага характару.**

У СВАЮ ЧАРГУ мне таксама хацелася б адзначыць важнасць і актуальнасць заканадаўства аб друку і свабодзе слова. Калі паслядоўна праводзіць курс на размежаванне закандаўчай, выканаўчай і судовай улад, то непазбежна паўстае пытанне аб «чацвёртай уладзе» — сродках масавай інфармацыі. Бо праз іх найперш ажыццяўляецца абавязковая перадумова любой іншай формы свабоды —права свабодна выказваць свае думкі. Грамадства павінна дазваляць аднаму чалавеку казаць, што кароль голы, нават калі здаецца, што прамоўца не мае рацыі. Як ведаць, ці не здарыцца так, што «няправільнае» сёння будзе слушным заўтра? Калі, вядома, даслухаць прамову да канца...

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**



## Уладзіміру Караткевічу на 60-годдзе і на вякі

Імя тваё —
Дрэва высокае
Небасхілы веры трымае.
На адужэлых суках
Нядрэмнага дрэва
Карціць пагушкацца,
пагутатацца
І тым,
Хто тужыцца ўспомніць цябе,
І хто забыцца стараецца,
І запабежнікам,
Што сталі сябрамі цяпер.
І зласліўцам,
Якія ў зайздросці магутнай
Сіпець стаміліся.
Усе чапляюцца за сукі.

А дрэва расце
Дужэй і вышэй.
Усё стрывала.
І ўсё і ўсіх яно вытрымае!

**Рыгор БАРАДУЛІН.**

(Гл. стар. 8—9).

выкіды ідуць на горад. Калі людзі выязджаюць на выхадныя ва «ўмоўна чыстую зону», яны яшчэ некалькі гадзін пакутуюць ад галаўнога болю. Мы падыходзім да той рысы, калі Наваполацк можа стаць «паўночным Чарнобылем». Прычым не толькі для Беларусі, але для ўсяго рэгіёну Балтыі.

**— Генадзь Фёдаравіч, ходзяць чуткі, што вайскоўцы маюць нейкае дачыненне да катастрофы?**

— Чуткі гэтыя не маюць падстаў.

**— Чаму мы даведваемся пра гэтую катастрофу з цэнтральнага друку, ад радыёгаласоў, а нашы беларускія сродкі масавай інфармацыі спачатку маўчалі?**

— Ёсць яшчэ ўсё «аматары» схаваць ад грамадскасці негатыўную інфармацыю, хоць, як кажуць, шыла ў мяшку не ўтоіш. Грэшна казаць, але мо гэтая катастрофа прымусіць урад (і рэспубліканскі, і цэнтральны) звярнуць зараз больш пільную ўвагу на патрэбы навапалачан.

**— Што вы наогул можаце сказаць аб наступствах уплыву хімічных выкідаў на арганізм чалавека?..**

— Каля 70 працэнтаў абследаванага насельніцтва маюць адхіленні ў формуле крыві. Дарэчы, для нас гэта не было нечаканасцю. Зараз у Наваполацку выкідваецца да 150 інгрыдыентаў шкодных хімічных рэчываў. А кантралюем мы толькі 12! У нас дагэтуль няма перасоўнай экалагічнай лабараторыі для замераў шкодных выкідаў на месцах. Справа ў тым, што выкіды такіх рэчываў, як сінільная кіслата, ацэтонцыянгідрын, вінілхларыд, выкіды сярністай вытворчасці практычна нельга ўбачыць вокам. Не ўсё мае пах і колер. Наваполацк, відаць, адзіны горад у Савецкім Саюзе, дзе ў паветра выкідваецца такі букет атрутных рэчываў. У адным з апошніх нумароў нашай гарадской газеты «Хімік» была змешчана інфармацыя аб тым, што на скрыжаванні вуліц Дружбы і Маладзёжнай сутачнае ўтрыманне ў паветры прымесяў аміяку ў 13,5 раза вышэй за норму. Гэта толькі аміяк. А што па астатніх выкідах? А што ў сумацыі? Такая інфармацыя не ўлічваецца і не сумуецца.

Гэтая катастрофа, магчыма, — апошні званок, апошні напамінак аб тым, што трэба прымаць самыя тэрміновыя меры па папярэджанні аварый на наваполацкіх прадпрыемствах. Мы жывём побач з мінамі запаволенага дзеяння. Адна ўжо выбухнула. Што чакае нас далей?

**Гутарыў Л. СВІРЫДАУ.**

**противятся возрождению родного языка». Але ж такога ніхто не скажа, напрыклад, пра былога партыйнага функцыянера, народнага дэпутата, а цяпер міністра замежных спраў Пятра Краўчанку. Ну, а тыя, хто толькі гуляе ў «адраджэнне», а сваімі практычнымі справамі тармозіць гэты рух, хай глянуць праўдзе ў вочы. Як вядома, самы дзейсны спосаб агітацыі — гэта асабісты прыклад. Ну, а як назваць таго дэпутата, які галасаваў за Закон аб мовах, абяцаў сваім выбаршчыкам, што будзе змагацца за адраджэнне роднай мовы, а ў парламенце выступае па-руску, хоць закон ужо ўступіў у сілу?**

**Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што ў публікацыі «Семидневца» ёсць і слушныя думкі — наконт закона аб друку, аб залежнасці журналістаў і націску на іх з розных бакоў, аб цяжкім стане, у якім аказалася беларускамоўная прэса. Чытаючы гэтыя радкі, міжволі думаецца: няўжо гэта пісаў адзін і той жа аўтар? І ўсё ж канцоўка публікацыі развейвае сумненні: «Семидневец» застаецца верны сваім пастулатам. «А если ставить вопрос так, что печататься надо только на родном языке, то можно остаться вообще без газет и журналов: и белорусских и русских». Але ж, шаноўны «Семидневец», ніхто не ставіць пытанне, каб усё без выключэння друкавалася толькі на беларускай мове. Гэта было б проста абсурдна. Толькі ці ж не беларускамоўны друк павінен быць прыярытэтным у рэспубліцы. Гэта і будзе спрыяць нацыянальнаму адраджэнню, пашырэнню нацыянальнай свядомасці сярод беларусаў.**

**В. СОКАЛ.**

в. Зубялевічы,
Ляхавіцкі р-н.

# КПБ: туга па «маналітным адзінстве»?

БЮРО КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ выступіла са спецыяльнай заявай, у якой дадзена палітычная ацэнка падзеям, якія адбыліся ў Мінску 7-га лістапада г. г. Карыстаючыся сваім неад'емным правам «чалавека і грамадзяніна», хацеў бы, у сваю чаргу, даць палітычную ацэнку гэтай заяве.

У ёй гаворыцца: «Вернасць ідэалам Кастрычніка, сацыялістычнаму выбару былі пераканаўча прадэманстраваны на мітынгах, шэсцях, маніфестацыях, урачыстых сходах, што адбыліся ў гарадах, пасёлках, працоўных калектывах». Аднак, як абвяшчае далей заява, «радасць галоўнага дзяржаўнага свята краіны была азмрочана імкненнем пэўных сіл стварыць у рэспубліцы атмасферу нецярпімасці, канфрантацыі і сацыяльнай напружанасці». Пад гэтымі «пэўнымі сіламі» Бюро ЦК КПБ разумее «альтэрнатыўныя мітынгі і дэманстрацыі, арганізаваныя апазіцыйнымі КПСС сіламі», перш за ўсё БНФ.

І так, дэмаркацыйная лінія, якая падзяляе чыстых і нячыстых, праведзена з ювелірнай дакладнасцю. Усе, хто дэманструе «вернасць ідэалам Кастрычніка» і КПСС, з імем якой звязаны «Вялікі Кастрычнік», адносяцца да катэгорыі «працоўных рэспублікі». Тыя ж, хто сумняваецца ў гэтых ідэалах і стаіць у апазіцыі да КПСС, залічваюцца да ведамства «дэмагогаў і зламысных ілгуноў, дэзінфарматараў і паклёпнікаў». Такі вось «палітычны плюралізм».

Што ж, кожны мае права мець уласны палітычны аршын. Аднаго толькі я ніяк не магу зразумець: у чым Бюро ЦК КПБ бачыць пераканаўчасць дэманстрацый на карысць «ідэалаў Кастрычніка» і, наадварот, непераканаўчасць дэманстрацый тых, хто не адчувае роўна ніякай радасці з нагоды «сацыялістычнага выбару»? Дзе крытэрый? Можа, такім крытэрыем для членаў ЦК КПБ служыць колькасны склад дэманстрантаў? Не ведаю, у Мінску ў той дзень не быў, падлікаў не праводзіў. Ды і каму патрэбна зараз гэтая гульня ў лічбы? Даўно час зразумець, што, акрамя палітычнай арыфметыкі, існуе яшчэ палітычная алгебра, якая дае больш дакладнае адлюстраванне палітычнай рэальнасці.

«Ніхто не мае права, — гаворыцца ў заяве, — перакрэсліць нашу гісторыю, працоўныя намаганні і маральную стойкасць народа, які здолеў ажыццявіць першую ў свеце сацыялістычную рэвалюцыю, прайсці праз суровыя выпрабаванні і выстаяць».

Перакрэсліваць ці не перакрэсліваць гісторыю — гэта пытанне не права, а аб'ектыўнай магчымасці. Гісторыю ні перакрэсліць, ні перапісаць набела нельга. І, значыць, гаворка можа ісці ў дадзеным выпадку толькі пра тое, як ацаніць яе, гэтую гісторыю. Бюро ЦК КПБ дэманструе ў сваёй заяве «вернасць ідэалам Кастрычніка, сацыялістычнаму выбару» і заклікае камуністаў «згуртавацца ў гэты адказны час, даць рашучы адпор правакатарам, абараніць заваёвы Кастрычніцкай рэвалюцыі». У імя абвешчанага намі палітычнага плюралізму ніхто не можа забараніць КПБ і яе ЦК мець такі погляд на кастрычніцкі пераварот 1917 года і на тыя «заваёвы», якія за ім адбыліся. Ніхто не можа забараніць ёй звярнуцца да сваіх членаў з заклікам абараніць і свой «выбар», і свае «заваёвы». Але чаму ў імя таго ж палітычнага плюралізму Бюро ЦК КПБ пазбаўляе права іншых мець свой пункт гледжання і на «Вялікі Кастрычнік», і на яго «заваёвы»? Дзіўны нейкі плюралізм атрымліваецца ў членаў Бюро ЦК КПБ. Відаць, тут зноў спрацоўвае логіка «сацыялістычнага плюралізму» як плюралізму «для большасці». Так, плюралізм у перакладзе з латыні азначае множнасць. Але адсюль яшчэ зусім не вынікае, што чым больш глотак крычыць «Няхай жыве Вялікі Кастрычнік!», тым больш плюралізму.

Як жа Бюро ЦК КПБ мае намер адстойваць сваё разуменне нашай гісторыі? «Абавязак камуністаў, якія працуюць у дзяржаўных структурах і праваахоўных органах, —строга стаяць на варце законнасці і парадку, захавання Канстытуцый СССР і БССР», — чытаем мы ў заяве. Узнікае пытанне: чаму Бюро ЦК КПБ апелюе толькі да камуністаў, якія «працуюць у дзяржаўных структурах і праваахоўных органах»? Ці ж гэта не з'яўляецца канстытуцыйным абавязкам любога работніка дзяржавы і яго інстытутаў? Калі адкінуць рыторыку наконт захавання Канстытуцыі СССР і БССР, сутнасць звядзецца да вельмі простага: ёсць улада КПСС, якую яна мае намер, як і раней, сцвярджаць з дапамогай пазадзяржаўных форм свайго ўладарання — партыйных арганізацый у праваахоўных органах, судзе, пракуратуры і г. д. Хто ж з'яўляецца сапраўдным парушальнікам законнасці і правапарадку?

І апошняе. «Сваімі дзеяннямі, — гаворыцца ў заяве, — лідэры БНФ яшчэ раз пацвердзілі, што іх сапраўдная мэта — барацьба за ўладу і ліквідацыя сацыялістычнага ладу. Усе іх ранейшыя разважанні аб дэмакратыі, дасягненні грамадзянскай згоды аказаліся цынічнай хлуснёю».

Што гэта — палітычная наіўнасць альбо разлік на палітычную наіўнасць другіх? Ці не блытаюць члены Бюро ЦК КПБ палітычныя партыі і рухі з таварыствамі сабакаводаў і філатэлістаў? Ды каму ж невядома, што палітычныя партыі і ствараюцца як зброя барацьбы за ўладу? Пытанне заключаецца толькі ў тым, якія сродкі яны выкарыстоўваюць у барацьбе за ўладу — канстытуцыйныя, як гэта робяць усе сапраўды дэмакратычныя, парламенцкія партыі, ці антыканстытуцыйныя, да якіх звярнулася КПСС у 1917 годзе і якія яна культывавала апошнія тры чвэрці стагоддзя?

Мітынг, ініцыятарам якога быў БНФ (і не толькі ён), быў санкцыяніраваны, як гэта вынікае з заявы, Мінскім гарвыканкомам, г. зн. органам дзяржаўнай улады. У чым жа бачыць Бюро ЦК КПБ парушэнне закона? «Была зроблена, — гаворыць заява, — чарговая атака на Кастрычнік і сацыялізм, на У. І. Леніна». Ну і што з гэтага вынікае? У чым тут крамола? Спадзяюся, атака была прадпрынята без выкарыстання хімічнай, бактэрыялагічнай і іншых форм зброі? На якой падставе Бюро ЦК КПБ лічыць канстытуцыйным і дзяржаўным толькі тое, што адпавядае яе ідэалогіі і палітычнай праграме? Ці не час, нарэшце, прывыкнуць, што адмаўленне ад ідэалагічнай і палітычнай манаполіі — гэта «ўсур'ёз і надоўга».

Так, нам як ніколі патрэбна сёння грамадзянская згода. Такая згода магчыма пры адной умове: павазе да палітычнага апанента, прызнанні яго роўнасці, уменні не толькі гаварыць (тым больш крычаць і стукаць кулаком па стале), але і слухаць. Разумення гэтага я якраз і не знайшоў у заяве Бюро ЦК КПБ. Палітычнае кіраўніцтва КПСС (і КПБ) перакanana, што ў яе на руках усе козыры. Гэта яе права. Не трэба было б толькі забывацца на лёс пушкінскага Германа. Бо можа здарыцца, што трэцяй картай КПСС акажацца не туз, а піковая дама.

**Валянцін АКУЛАУ.**

**P. S. Напісанае зусім не азначае, што я апраўдваю дзікунскую сцэну, якая адбылася каля помніка Леніну. Да Леніна можна ставіцца па-рознаму. Можна лічыць «правадыром працоўных», можна лічыць бацькам бальшавіцкага генацыду. Але ў кожным выпадку трэба заставацца цывілізаванымі людзьмі.**

**В. А.**

ДЗЕСЯТКІ ГАДОЎ наша грамадства пазбаўлялі традыцыйнай маралі, вынішчалася рэлігія, нішчыліся набыткі матэрыяльнай і духоўнай культуры. Замест іх у душы людзей з дзяцінства закладваліся прынцыпы маралі камуністычнай, якіх абавязаны былі трымацца мільёны «простых» грамадзян і якія былі лішнімі для парт-дзяржнаменклатуры. Дзесяцігоддзямі праводзіўся прынцып «забароны на прафесію», калі нечлены камуністычнай партыі не маглі перасягнуць у сваёй кар'еры пэўнай мяжы. Здаецца ўсе зразумелі, што так далей рухацца нельга. Дзеля выжывання грамадства павінны адбыцца кардынальныя перамены. Але гэтага, падобна, не жадаюць разумець кіраўнікі камуністычнай партыі. Калі і гавораць імі пра перамены, то звычайна ў рамках ранейшых ідэалагічных канцэпцый. Па-ранейшаму жывая канцэпцыя класавай барацьбы. Па-ранейшаму не здадзена ў музейныя запаснікі тэорыя дыктатуры класа. Гаворачы пра кансалідацыю грамадства, лідэры кампартыі па-ранейшаму не ідуць на адкрыты дыялог са сваімі апанентамі, па-ранейшаму імкнуцца да захавання манаполіі літаральна ва ўсіх сферах жыцця.

Падзеі 7 лістапада ў Мінску сталі лагічным вынікам 73-гадовай гісторыі дзяржавы. Яшчэ не было ніколі, каб з пустазелля вырастала што-небудзь вартае. Гэтак і ў грамадска-палітычным жыцці не можа ў адначассе ўзнікнуць адназначна здаровы рух да пераменаў. Камуністычная партыя, сама не жадаючы саступіць ні кроку з аднойчы абранага, як паказала гісторыя не толькі нашай краіны, заганнага шляху, патрабуе крокаў насустрач ад іншых арганізацый. Яскравым прыкладам нежадання і няўмення рабіць крокі да пераменаў можа стаць сённяшняя сітуацыя ў эканоміцы, на спажывецкім рынку, у сацыяльнай сферы. Па-ранейшаму пасады займаюць кіраўнікі-камуністы. Па-ранейшаму ў складзе як Вярхоўнага Савета БССР, так і большасці мясцовых Саветаў пераважаюць дэпутаты-камуністы. А што мяняецца? Больш таго, са старонак перыядычных выданняў, якія знаходзяцца пераважна ў руках кампартыі, ідзе непрыхаваная антысавецкая прапаганда. Мала якое пасяджэнне гаркомаў ці абкомаў абыходзіцца без крытыкі ў адрас Саветаў за развал той або іншай сферы жыцця. Толькі гэта не больш, як прапагандысцкі прыём. Наўрад ці цяперашнія Саветы за паўгода сваёй дзейнасці да такой ступені маглі развaліць тое, што метадычна развальвалася ўсе гады манапольнага праўлення камуністычнай партыі. Прычыны тых крытычных выступленняў у адрас Саветаў, верагодней, у настальгіі па колішняй непадзельнай, манапольнай уладзе.

Шэсце і мітынг 7 лістапада, як і дзяжурства сяброў Рабочага саюза Беларусі каля будынка Мінгарсавета 15 лістапада друк назваў антыкамуністычнымі. Дарэчы, надзвычай дзіўна гучаць словы заявы ЦК КПБ, што шэсце і мітынг, апрача іх антыкамуністычнай накіраванасці, мелі і антыдзяржаўны характар. Хіба што кампартыя нейкім асаблівым чынам трактуе вядомы лозунг «Дзяржава — гэта мы!» Гэта былі выступленні супраць таталітарнай формы праўлення камуністычнай партыі. Удзельнікі абодвух акцый выступалі і супраць манапольнага становішча КПСС у нашай дзяржаве. Сёння, калі многія з нас прызнаюць неабходнасць будаваць узаемадачыненні ў грамадстве на аснове агульначалавечай маралі, без увагі на розныя «ізмы», — антыманапольныя, антыкамуністычныя лозунгі менавіта такога плана маюць поўнае права на існаванне.

Чаму ж тады так усхадзіліся прадстаўнікі камуністычных арганізацый рознага рангу? Думаецца, прычына не толькі ў факце «зняважання» помніка Леніну. Факт гэты ўсё ж нельга вырываць з цэлага кантэксту падзей і разглядаць адарваным ад астатніх надзвычай важных фактаў нашага жыцця.

Дзень за днём набліжаюць кампартыю Беларусі да яе чарговага з'езда. Выказваюцца меркаванні, што гэта будзе апошні з'езд камуністаў на Беларусі. Наўрад ці, бо КПБ выяўляе сябе дастаткова жыццяздольнай арганізацыяй. Іншая справа, што нельга адназначна запраграмаваць ход беларускага камуністычнага форуму. Паўмесяца таму назад пра сваё ўтварэнне заявіла Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі. Разварушваюцца сябры Беларускай нацыянальна-дэмакратычнай партыі. Чуваць ужо і пра сацыял-дэмакратаў. Не зусім падуладны кіраўніцтву КПБ і рабочы рух. Людзі, нераўнадушныя да сённяшніх працэсаў у грамадстве, сабраліся ў Грамадзянскай радзе Беларусі. Ні адна з гэтых арганізацый не выказвае жадання ўсталёўваць цесныя кантакты з КПБ, а некаторыя выступілі з рэзкай яе крытыкай. У самой кампартыі выявіліся тэндэнцыі, далёкія ад колішняга «маналітнага адзінства». Як жа можна з'яднаць шэрагі камуністаў на Беларусі? Найбольш дзейсным і простым спосабам можа стаць згуртаванне іх супраць «агульнага ворага». Такім даўнім ворагам для кіраўніцтва КПБ з'яўляецца БНФ. Іншая справа, што не знаходзілася да пэўнага часу дастаткова важкіх падстаў, каб адкрыта заявіць пра гэта. А тут і прычына наспела, і падставы знайшліся...

**Ігар ЧАРНЯЎСКІ,**
**старшыня пастаяннай камісіі Мінсавета па культуры, ахове і адраджэнні гісторыка-культурнай спадчыны.**

**Як вядома, род і народ яднаюцца адным дарагім словам — радзіма.**

**Ці часта мы задумваемся: адкуль пайшоў я сам, адкуль пачалася мая дарога ў свет!**

**У сучасным клопаце, у штодзённых мітрэнгах і мітусні як бы і не да гэтага — ат, дзе там думаць! Носа некалі ўцерці. Так і жывём. Бяздумна.**

**А ўсё ж, бывае, і сам не ведаеш, чаму раптам міжволі наплыве на памяць штосьці такое тваё, уласнае, асабістае, вельмі табе дарагое, незразумела адкуль — ці то ад даўняга ўспаміну, ці то ад нечакана пачутага, даўно як бы і забытага слова, назвы, імя, і наскрозь пройме і разварэдзіць душу...**

**Васіль ВІТКА**

# Адкуль вы, як Вас зваць?



ТАК, ДУШУ НАШУ жывяць не толькі вобразы дарагіх нам людзей, а і родныя змалку мясціны навакольнага асяроддзя, зямлі, прыроды, з якімі мы зрасліся ад нараджэння і навечна. «Вобразы мілыя роднага краю, смутак і радасць мая!» — праз усё жыццё звяртаўся ў думках наш вялікі пясняр да сваёй калыскі, песенна-казачнага Нёмана, адкуль заструменіла жывая крыніца ўсёй яго творчасці. А назвы такія, як Мікалаеўшчына, Акінчыцы, Альбуць, Ласток, Смольня — хіба не жывуць і яны ў нашай памяці і ў памяці ўсіх, хто яшчэ са школьнай парты далучаецца да неўміручай спадчыны паэта. А назвы суседніх паселішчаў на яго радзіме: Рубяжэвічы, Новы Свержань, Вялікія Навікі, Вішнявец, Залужжа, Засулле, Заямнае, Налібокі, Рудня Налібоцкая? А іншыя назвы вёсак, урочышчаў, лясоў, лугоў, рэчак, крыніц хіба не лашчылі слых паэта, дый усіх яго землякоў, хто тут нарадзіўся або нават пабываў, увабраўшы ў сябе, у свае пачуцці і чарадзейнае хараство гэтых краявідаў і музыку гучання роднага слова?

І вось роўна паўвека, як на геаграфічнай карце ўсё гэта— Стаўбцоўскі раён. Зірнём, якімі ж тапанімічнымі набыткамі пабагацеў, папоўніўся слоўнік тубыльцаў і наша лексіка. Натуральна, з'явіліся назвы калгасаў. І вядома ж, такія, як ва ўсіх раёнах: імя Дзяржынскага, Мічурына, Суворава, 40 год Кастрычніка і як пад капірку: Чырвоны Кастрычнік, Чырвоны Сцяг, Чырвоны партызан. Праўда, кожны тубылец з гонарам зазначыць: «А ў нас два калгасы завуцца імёнамі паэтаў: у Рубяжэвічах — Янкі Купалы, а ў Кнотаўшчыне — «Радзіма Якуба Коласа», хоць не зусім зразумела, чаму радзіма Коласа не ў Акінчыцах і нават не ў Мікалаеўшчыне. Ды бог з ім, з тым, хто яе перанёс на іншае месца. У яго была рука, якая што хацела, тое і рабіла. Чаго было асабліва думаць. А імёны калгасам даваліся не то што, як зажадае нейчая правая рука, а, бывала, і левая нага. У тых, хто іх, нованароджаных, хрысціў, казённыя святцы былі карацей камарынага носа, а ўласнага запасу слоў хапала хіба што на рэпертуар папугаю. Айца і сына, імя Арджанікідзе, Будзённага, Варашылава, Дзяржынскага, Жданава, Калініна, Красіна, Куйбышава, Клары Цэткін, Розы Люксембург, Карла Маркса, Энгельса. Вось фальклор з райкомаўскіх прыёмных і сельпоўскіх калідораў: «На бюро будзем слухаць Розу Люксембург». «Калінін мяняе бычкоў на цялушак-перадоек». «Варашылаву далі страгача за тое, што патруціў рыбу ў сажалцы». «Жаночы абутак падкіньце Клары Цэткін, а пяць скрынь гарэлкі Будзённаму...»

Мудрасць вернападданых мясцовых войтаў і цівуноў, бывала, і пашырала набор штампаў. З'явіліся: Авангард, Бальшавік, Гвардзеец, Гігант, Прагрэс...

Не першы год мне карціць і муляе: што гэта за такі род, што гэта за такі від і жанр нашай міфалогіі, калі героі, імёнамі якіх мы называем гарады, вуліцы, плошчы, паркі, стадыёны, заводы, фабрыкі, калгасы, даўно ўжо не маюць рэальных абліччаў, і ад таго, што мы бясконца множым іх колькасць і чапляем, як інвентарныя біркі, да ўсяго, да чаго толькі можам прычапіць, даўно страцілі значнасць сваёй сутнасці. Дэвальвацыя кананізаваных імёнаў, як і масавы канвеерны шырспажыў рытуальных куміраў ужо выклікаюць усюды і скрозь духоўную алергію — іх ужо да адвалу, да пакатынку.

Пачаўшы з назваў калгасаў, давайце цвяроза разважым: што азначае, які сэнс мае імя, якое надаецца, прысвойваецца не канкрэтнаму геаграфічнаму паселішчу, а толькі суполцы людзей, што аб'ядналіся пад гэтаю назваю? Скажам, слуцкія Гольчыцы, уваходзячы ў калгас «Расія», лічаць сябе ўсё ж беларусамі. А мілае маё Хорашава на той жа Случчыне, застаецца ўсё тым жа Хорашавым з усімі яго харошымі людзьмі, хоць і жывуць яны ў «40 год Кастрычніка».

Добра, што ў нас яшчэ хоць цэнтры калгасаў захоўваюць свае ўласныя імёны, і хоць і гэта адзінае, што магло б быць пэўнай арыентацыяй у мясцовасці, але ж ні ў якіх афіцыйных дакументах, ні ў аператыўных зводках у раённых газетах яны ніколі не пішуцца. Уся інфармацыя падаецца толькі пад шыльдай калгаса.

«Па ўборцы бульбы «Будзённы» ў хвасце...» Дзе гэты Будзённы? — пытаюся ў аднавяскоўцаў. Ніхто не ведае — ні старыя, ні малыя. Дый вялікі ім клопат да Будзённага. Вунь так усё раскісла вакол, што і да свайго поля не падступіцца. Ліе ўвесь верасень. І наш у хвасце — «Чкалаў», той, што Паўночны полюс пераляцеў і вось у нас прапісаўся. І не толькі мы з ім у хвасце, а вунь па зводцы і «Авангард», і «Бальшавік», і «Гвардзеец», дый сам «Прагрэс»...

Назвы калгасаў я ўзяў са зводак не аднаго свайго раёна, але ўсе яны адны і тыя ж. Сапраўды, пад капірку. Імя ўсім ім, безаблічным, бязадрасным — легіён! Так і не змог адрозніць, дзе «XVI з'езд КПСС», а дзе «XXI», дзе «імя ЦК КПБ», дзе «Трэці Інтэрнацыянал», а дзе «Трэці рашаючы», дзе «1 Мая», а дзе «17 верасня». Не так лёгка сарыентавацца ў імёнах самога Леніна: «Шлях Леніна», «Іскра Леніна», «Памяць Леніна», «Ульянава», «Ільіча» — а дзе, у якіх сёлах, мястэчках і так званых «г. п.» Дакладна, мабыць, ведаюць толькі ў райкомаўскіх кабінетах і нарыхтоўчых канторах. У іх на сценах — карты, а ў паперах усё пазначана: хто наперадзе, хто адстае — па мясу, па малаку, па нарыхтоўцы кармоў і вывазу гною. Поўная галоснасць для службовага карыстання!

Не конча людзям усё знаць, нават свае ўласныя імёны. Па суседству з маёй вёскай быў арганізаваўся калгасік — маленькі, нядошлы і з самай маленькай назвай: «Дук». Усё наваколле гэтак і звала яго: Дук і Дук. Аднак доўга ён не пацягнуў. За сваю нямогласць быў скасаваны. І толькі з папер людзі даведаліся, што зваўся ён ого як магутна: «Дзень ураджаю і калектывізацыі»!

Хрысцілі нас направа і налева. Хрысцілі, як хто хацеў і як хоча. Лішне спамінаць тут благой памяці ўстановы, пасады, чыны. Усе яны і вялікія, і малыя, зверху данізу: паслухмяныя, самаадданыя казённыя таўкачы, ліха матары, калектывізатары і каланізатары, апрычнікі самаўладства і самадурства.

Гэта з-за іх ласкі ўсе мы і ў вёсках, і ў гарадах, і ў «г.п.» жывём, ходзім, ездзім па адных і тых жа вуліцах, па адных і тых жа маршрутах, пад аднымі і тымі шыльдамі. Не дасягнуўшы толькі светлага абяцанага ідэалу, а так бы ўсе спрэс хадзілі б з аднымі і тымі ж біркамі і нумарамі на шыі.

Беларускі народ дасканала валодаў роднай мовай, узбагачаў яе, утвараючы назвы, імёны ўсяму жывому і навакольным мясцінам і краявідам, дзе жыў спакон веку. Яшчэ і цяпер, на схіле год у маёй памяці гэтулькі незабыўных назваў, і толькі ў ваколіцах сваёй вёскі. Лугі зваліся: Дубрацінa, Тапіла, Толева, Лявошына, Мякіш, Падлужак, Рагожына, Клінкова, Задвор'е; балоты: Белае, Пожар, Плёса, Папоў клін, Сакера; лес: Крошня. А колькі суседніх паселішчаў, аселіц, хутароў, сенніц, кашарак, дарог, скрыжаванняў, рэчак, брадоў, грэбляў, выганаў, сцежак, крыніц! Імёны, імёны, назвы, назвы, ды якія каларытныя, сакаўныя, а ўсё разам — мова, родная, матчына, бацькава, сваяцтва — дальняга і блізкага. Неацэнныя жывыя скарбы. І ўсё гэта берагла зямля. Без памяці зямлі не можа быць ні памяці народа, ні яго гісторыі.

Чалавек жыве поўным духоўным жыццём у трох вымярэннях: сучасным, мінулым і будучым. Ці не таму так завіхаліся сталінскія янычары і каланізатары разам з мовай нявечыць і самую нашу памяць. Без разбору мяняючы старажытныя назвы *нашых паселішчаў* і мясцовасцей, яны не вельмі ўдаваліся ў сэнс новых і нават іх звычайную пісьменнасць. Колькі *іх з'явілася на карце* рэспублікі, што на Белай, Белай нашай Русі аж мільгаціць уваччу ад суцэльнай чырвані: Красны *Акцябр*, Краснае Знамя, Знамя, Знаменка, Знаменскае, Акцябрскае, Акцяброва, Акцябрына. А яшчэ не меншыя прыгоствы: Атраднае, Сірэнеўка, Лазурнае, Лучазарнае, Жамчужнае, Красіеўка! Міжволі ўспомніш, чым горшыя былі на маёй Случчыне скасаваныя Жывагладавічы і Старцавічы, а на Уздзеншчыне — Магільна? За імі ж гісторыя, лёс цэлых пакаленняў і памятных гераічных падзей. Хто ж іх закрэсліў адным росчыркам пяра, які самаўпраўны таўкач? Якому, пэўна ж, само слова не лашчыла слых. Дарэчы ўспомніць, як на нашай памяці рабіўся не меншы гвалтоўны замах і на назву горада Магілёва. У 1937 г. даследчык Арктыкі, ураджэнец Магілёва, Ота Шміт кіраваў экспедыцыяй «Чэлюскіна», ратаваў зімоўшчыкаў ст. «Паўночны Полюс». Гонар яму і слава. Але беларускія кіраўнікі настолькі расшчодрыліся, што гатовы былі ахвяраваць герою ўжо не Магілёў, а Шміт. Якраз жа ў гэты час наспявала ідэя і самую сталіцу перанесці з Мінска сюды. Спешна пабудавалі копію сталічнага Дома ўрада. Так што, каб такое здарылася, дык многія б з нас, пэўна, былі б і не мінчукі, і не магілёўцы, а шмітаўцы, а, магчыма, і шмітчукі!

Вось так лёс мог распарадзіцца не толькі намі, а і гарадам нашай маладосці. У дадатак да ўсіх драм і трагедый нашага часу і да пасляваенных год ужо некалькі пакаленняў людзей перажылі не меншае выпрабаванне на сацыяльна-псіхалагічны злом душы. Адарваныя ад зямлі, мы не сталі гараджанамі. Мінск майго юнацтва жыў яшчэ паветрам, якім дыхала вёска. На сваіх ускраінах і прадмесцях ён таксама быў вёскай. Дзяўчаты з Пярэспы, ідучы на вячэрні шпацыр у цэнтр, неслі лакіраваныя лодачкі ў руках і абувалі іх, мінуўшы мост цераз Свіслач. Усе ведаюць Камароўку з-за яе славутага рынку, і мала хто ведае цяпер Старажоўку, Ляхаўку, Грушаўку, Кальварыю, Козырава, Людамант, Доўгі Брод, Татарскі канец, Чырвонае Урочышча — чысты, сонечны бор, які дарэшты зжэрлі два нашы ненаедныя волаты — Аўтамабільны і Трактарны, а цяпер штовосень і штовясну на вулічных абочынах забіваюць у зямлю тапаліныя калы—азеляняюць заводскія пасёлкі.

У біяграфіі горада былі свае гістарычныя арыенціры. Мова гучала ў яго назвах. *Мова* гучала ў дзяржаўных установах, ва ўсіх канцылярыях, не гаворачы ўжо аб школах. Цяпер пра тыя гады нярэдка можна пачуць як бы з асуджэннем: беларусізацыя. І з папрокам, нібыта праводзілася яна ледзь не прымусова. Дазволю спытацца: дзеля каго? Дзеля таго ж мяне? Дзеля дзесяткаў і сотняў тысяч такіх жа юнакоў і дзяўчат, што пацягнуліся ў горад вучыцца?

Уявіце сабе, што цяпер у нашых ПТВ і тэхнікумах дзеці вучацца па-беларуску. Кожны скажа: быць такога не можа. А мы ўсе — і вясковыя, і гарадскія вучылі на адной мове і фізіку, і хімію, і гісторыю, і геаграфію, і тэхналогію металаў. Выдатны матэматык у Слуцкай *прафтэхшколе* немец Ватэль і той дасканала вывучыў свой прадмет па-беларуску, спадзеючыся, што і мы гэтак жа *палюбім* матэматыку, як і ён сам.

У Мінску на адным са сходаў бацькоў, дзеці якіх вучыліся *ў розных школах* — хто ў рускай, хто ў польскай, хто ў яўрэйскай, разгарэўся сыр-бор... з-за чаго б вы думалі? Цяпер бы сказалі, з-за нацыянальнага канфлікту. Прасцейшы, рабочы люд — шаўцы, шкляры, муляры, печнікі, грузчыкі, рамізнікі — траха не з кулакамі абрынуліся на Шапіру толькі за тое, што яго дзеці, нябось, вучацца ў беларускай школе, а іншым, хто і хацеў бы, адмаўляюць: усе класы перапоўнены. На той час прафесар Шапіра, вядомы ў Мінску хірург, проста жыў па суседстве з гэтай школай. Да таго ж быў задаволены, што ў беларускай было не толькі прэстыжна вучыцца, а і мелася добрая надзея на перспектыву. У маладой рэспубліцы быў востры дэфіцыт на кадры па ўсіх спецыяльнасцях.

Беларускія школы, тэхнікумы, інстытуты ўсе былі ў цэнтры горада. Гэта я ўспамінаю па аналогіі, для параўнання, як дзесяць гадоў таму назад пад націскам і каб адбіцца ад назолаў-пісьменнікаў, якія спакою не давалі Міністэрству асветы, якое дажылося да таго, што нават у сталіцы не мела ніводнай беларускай школы, нарэшце, здзейснілася вялікая падзея! Па згодзе і з дазволу высокаідэйнага дому такая школа, годная ўвагі, была знойдзена. Не ў цэнтры, вядома, дзе спакон веку і прафесура, і ўся інтэлектуальная эліта, і цвет мудрэйшага абранніцтва нацыі, а неспадзеўкі там, дзе толькі і мог дадумацца наймудрэйшы з абраннікаў,—уявіце сабе, на той ускраіне, дзе нават і Макар цялят не пасе, затое цыганы пасуць коней, даўно аблюбаваўшы гэтае глухое прадмесце. Беларускія цыганы і асабліва іх дзеці — народ дапытлівы і старанны. Ахвотна згуртаваліся з самага першага класа, дайшоўшы ўжо недзе да 7—8, хутка і школу закончаць, праўда, у адным, так сказаць, класным камплекце. І то хлеб, і то гонар. Малайцы! Не пасаромілі беларускай сталіцы, хоць і тут, у цэнтры, у нас ёсць ажно дзве школы з шыльдамі — імя Янкі Купалы і Якуба Коласа, а сёлета дадалася яшчэ і гімназія з шыльдай імя Скарыны.

О, шыльды, шыльды... Вы — наша ўкраса і гонар!

Хто мы — насельніцтва ці проста зборышча, натоўп?

СТРАЦІЎШЫ ПАМЯЦЬ, мы змізарнелі душамі. Выпрабаванне натоўпам у сціску, у вечнай цясноце, дзе *локаць* патрэбны не для падтрымкі бліжняга, а хутчэй для таго, каб адапхнуць, а то і даць грымака—не *лепшы* спосаб выхавання духоўнасці. Грубым, эгаістычным і ўрэшце агрэсіўным імпульсам і інстынктам, *якія* авалодалі намі, цяпер ужо мала хто здольны працістаяць. Пачуццё годнасці даўно не імунітэт засцярогі чалавека, а як непатрэбны апендыкс для яго сумлення. Бяспраўныя, застрашаныя, час ад часу ўспамінаючы сваіх абяздоленых пракокаў, што асмеліліся сказаць перад светам, што і мы хочам людзьмі звацца, самі ж і дагэтуль усё яшчэ не можам вызначыць не такога і далёкага па часе свайго ні этнічнага, ні духоўнага радаслоўя. Якіх-небудзь блізка тысячы год роду, а мы ніяк не дойдзем да яснасці — хто і адкуль жа мы? У апошні час на старонках газет «Звязда», «ЛіМ» і іншых выданняў раптам разгарэліся азарт і запал па высвятленні ролі і

**(Працяг на стар. 6).**

# Вайна была адна...

**З падручнікаў гісторыі мы ведаем, які вялікі ўклад унёс савецкі народ у разгром нямецкага фашызму, якой вялікай цаной заплаціў за Перамогу. З тых самых падручнікаў вядома нам і іншае: саюзнікі запазніліся з адкрыццём другога фронту, дапамога іх была меншай, чым магла быць. Але ці так усё гэта на самай справе? Ці не прыўзнімаецца ў дадзеным выпадку роля СССР і ці не прыменшваецца ўклад іншых краін, у прыватнасці, Злучаных Штатаў Амерыкі?**

**Яшчэ колькі гадоў назад выказаць падобныя сумненні было небяспечна. А цяпер... Выстаўка кніг і экспанатаў Інфармацыйнага Агенцтва ЗША пад назвай «Змаганне за свабоду. Злучаныя Штаты ў другой сусветнай вайне», пазнаёміцца з якой выпала магчымасць жыхарам і гасцям горада над Бугам, у многім дае адказ на гэтыя і іншыя пытанні. І зусім невыпадкова, што экспазіцыя была прывезена ў Брэст,— горад, ля сцен якога гітлераўскія захопнікі атрымалі першы значны адпор на савецкай зямлі.**

**Да выстаўкі яе арганізатары падрыхтавалі не толькі цікавыя, у большасці сваёй унікальныя экспанаты, але і яе праспект. Цудоўна выдадзены, змястоўны, на якаснай паперы — ·рыхтык невялікі альбом, толькі ў мяккай вокладцы. Да ўсяго — тэкст на беларускай мове. Падрабязна расказваецца пра ўсё тое, што можна ўбачыць на шматлікіх стэндах.**

**Прыводзяцца і лічбы, якія ў нас не часта сустрэнеш. Аказваецца, «частковы спіс тавараў, завезеных Савецкаму Саюзу ў перыяд паміж 7 лістапада 1941 г. і 20 верасня 1945 г., уключаў у сябе наступнае: 4 062 000 метрычных тон харчоў, 14 795 самалётаў, 7 056 танкаў, 51 503 джыпы, 375 883 грузавікі, 8 071 трактар, 8 218 зенітак, 131 633 аўтаматы, 313 650 метрычных тон узрыўчаткі, 1 981 лакаматыў, 11 155 таварных вагонаў, 90 транспартных караблёў, 105 знішчальных падводных лодак, 197 тарпедных лодак, 2 540 000 метрычных тон сталі, 2 422 000 метрычных тон нафты, 764 000 метрычных тон хімікаліяў, 3 786 000 шын і 15 417 000 пар армейскіх чаравікаў».**

**Вайна была ў нас адна. Супраць чалавеканенавісніцтва, супраць фашызму. Перамога была заваявана і дасягнута агульнымі намаганнямі. Справа не ў тым, чый уклад у яе большы, а чый меншы. Галоўнае ў іншым: ёсць вопыт плённага міжнароднага супрацоўніцтва. Выкарыстаем жа яго сёння, калі ва ўзаемаадносінах паміж двума вялікімі народамі — амерыканскім і савецкім — нарэшце, пацяплела.**

**НАШ КАР.**

# СВЯТЛО ДАРОГІ

Колькі разоў сцвярджалася: паэзія — пульс часу. Але цяперашні час такі, што і паэзія за ім угнацца не можа. Тое, што ўчора ўспрымалася як адкрыццё, сёння паблякла, выветрылася. Асабліва гэта адчуваецца, калі верш прывязаны да канкрэтнай падзеі з нашага недалёкага мінулага. Можна спрачацца, што і ў канкрэтыцы сапраўдны талент праявіцца. Яно так. Але...

Успомнім, хто з паэтаў і празаікаў не ўслаўляў вялікую дружбу савецкіх народаў. І гэта лічылася амаль што будзённай, але неабходнай з'явай, каб кніжка «пайшла лепш». У ёй абавязкова павінна было прысутнічаць некалькі такіх «ударных» твораў. А цяпер?

Я наўмысна засяродзіў на гэтым увагу. Не ў папрок паэзіі і паэтам. Бо ўсё яшчэ выходзяць зборнікі з такімі «неабходнымі» вершамі. А пісаліся яны, відаць, у слаўныя часы.

Думаю, не адна Ніна Загорская напісала такія радкі:

**Наша дружба знітавана**
**Ленінскімі дэкрэтамі,**

**Саюзам Сярпа і Молата,**
**Крыламі алых сцягоў,**

**Крывёю латышскіх стралкоў,**
**Непахіснасцю бакінскіх**
**камісараў.**

І гэтак далей. А ў канцы верша паэтка робіць адпаведную выснову: «вось чаму непарушная наша Дружба».

Хай не пакрыўдзіцца на мяне аўтарка. Скажу, што гэта літаральна адзіны такі верш у кнізе паэзіі Ніны Загорскай «Мне добра з вамі». Так і карціць дадаць у назву яшчэ адно слова — людзі.

Мне добра з вамі, людзі... Гэта ў натуры яе паэзіі — простай, шчырай, адкрытай. З людзьмі інакш нельга гаварыць, бо «жыццёвая рунь» спавіла зямлю, якую паэтка слухае з болем у сэрцы і разумее. Матывы гэтага разумення разам з ёй успрымаем і мы.

Хочацца верыць — дабрыня не састарэе, не стане чарговым нашым дэфіцытам. Асабліва цяпер, калі само дабро і элементарная прыстойнасць падмяняюцца, а чалавек пачынае прагматычна жыць двайным жыццём, дзе самае страшнае праклянцце: «Каб ты жыў толькі на адну зарплату!». Вось тут акурат і патрэбна мужнасць, каб назваць чорнае чорным, а белае белым.

**Замнога тых,**
**Хто робіць напаўсілы.**
**Замнога рабавання і маны...**
**Анёлавыя вочы у віны,**
**Калі шуфлюе лепшых у**
**магілы;**
**Калі маўчаць,**
**Дзе трэба закрычаць,**
**Калі не бачаць —**
**Самыя відушчыя!**
**Як страшна мне:**
**Вісіць сляпы туман,**
**Нібы падман,**
**Па-над жыццём, як пушчаю.**

Многа нам пускалі ў вочы гэтага туману — нават цяпер нялёгка ад яго вызваляцца. І чалавеку, і вершу. Менавіта і ў Загорскай можна назіраць гэтыя супярэчнасці пераадолення. І часу, і самой сябе — «ёсць доля у Паэта — як ніва ў Мужыка». Нялёгкая доля ў абодвух. Аднаму сеяць зярняты прыязнасці, а другому — жыццядайнай сілы, каб «нават на скалах, на камянях выраслі дрэвы яднання». Адзін да аднаго прабіваюцца людзі, як птушкі ў блакіт нябесны.

**Тут гром і гнеў мірыліся не**
**раз,**
**Тут нараджаліся Паэты і**
**Паўстанцы.**
**Таму вядомы сэрцу без**
**прыкрас**
**І чорны хлеб, і чарнавая праца.**

Зямля бацькоў, дзядоў, нашых продкаў, род беларусаў... Славіўся ты сваімі кавалямі, лірнікамі і кніжнікамі. Таму паэтка лічыць дзедаву скрыпку — «мастом пакаленняў». А «мама жала дзве капы за дзень...» і там жа нарадзіла доню, таму самы светлы дзень на зямлі — дзень нараджэння мамы.

**Поўдзень. Высокі поўдзень.**
**Знік пад нагамі цень.**
**Мама,**
**Мая перапёлка,**
**Сёння твой светлы дзень.**

Корань роду... Менавіта ён мацуе паэзію Ніны Загорскай. Зрэшты — і ўсю беларускую. Толькі ў паэткі і гэта тэма высвечана асаблівым пяшчотным цяплом і чалавечнасцю. Звяртаючыся да сваіх сыноў, яна безумоўна бачыла ўсіх сыноў роднай Беларусі.

**Пераймíце**
**Працавітасць дзедаву,**
**Сілу прадзеда,**
**Умельства прадзеда,**
**Мудрасць і Паэзію бабулі**
**І яе святую Дабрыню.**
**Бацькаву ашчаднасць**
**І пяшчоту...**
**Родныя,**
**аддана беражыце**
**Край—жыцця і вернасці**
**аснову,**
**Беражыце мову.**

Не абышла ў творчасці Загорская і «дарогу светлай Памяці». Па гэтай дарозе ў апошні шлях пайшлі нашы дзяды і бацькі. Пойдзем і мы. У адным з вершаў яна прызналася, што «рэдка ходзім мы з світальнаю расой па родным мурагу, па поплаве, па пашы...», ды гэта шкадаванне прыходзіць да нас ці не запозна. Сірацеюць родныя хаты, якія ні перад кім не вінаватыя. Загорская стварае Паэму ўспамінаў — пра бацьку і Паэму ў вершах — пра маці. Не новая тэма ў беларускай паэзіі. Толькі ў кожнага чалавека гора сваё і сваё перажыванне, а ў паэткі праз гэта і новае бачанне існага свету.

«Бярэмя бялізны з марозу пахне мамінымі рукамі...» Які яркі вобраз, кранальны і запамінальны малюнак!

**Нідзе няма такіх бяроз,**
**як на маёй Радзіме.**
**Такіх русявых доўгіх кос,**
**такіх азімін.**
**Такіх бароў і курганоў**
**і калыханак...**
**Іду дамоў, лячу дамоў**
**на мілы ганак.**
**Аер і поплава, садок,**
**і ў мяце сенцы,**
**і той над Мамаю, грудок, —**
**навек у сэрцы!**

Светлы свет паэзіі Ніны Загорскай у нашым не дужа светлым і суровым жыцці. Не рэзкае і кідкае святло, а павясковаму мяккае і цёплае, як у бабіна лета, праменіцца з вершаў. Як часта яго нам не стае...

Іван **РУБІН.**

---

Н. Загорская. «Мне добра з вамі». Вершы і паэмы. Мінск. «Мастацкая літаратура», 1989.

**У доме літаратара панавала паэзія і музыка. Святочны настрой агортваў удзельнікаў паэтычнага вечара Ніны Загорскай, якім Дом літаратара адкрыў чарговы творчы сезон, ужо ў фае, дзе гучала народная музыка ў выкананні фальклорнага аркестра Мінскага інстытута культуры і творы са зборнікаў, падрыхтаваных Рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіяй па народнай творчасці Міністэрства культуры БССР, галоўным рэдактарам якой нямала ўжо год працуе пісьменніца.**

**На сцэну выйшаў У. Пузыня. Палілася чароўная мелодыя. Пад яе гукі народная артыстка рэспублікі Л. Давідовіч, вядучая вечара, прачытала верш-прысягу Н. Загорскай «Нідзе няма такіх бяроз...» Пасля слова ўзяў намеснік старшыні рады СП Беларусі У. Паўлаў. Яго шчырае слова пра Н. Загорскую прадоўжылі К. Камейша і Г. Марчук. Народная артыстка СССР А. Клімава прачытала вершы паэтэсы ў перакладзе на рускую мову.**

**Паэтычныя творы, складзеныя ў кампазіцыю «Мамін ручнік», прывёз з радзімы А. Пысіна літаратурны тэатр «Ранак» Краснапольскага РДК. Выступіў тэатр-студыя «Летуценнік» філалагічнага факультэта БДУ імя У. І. Леніна. Рамансы М. Наско пад яго акампанемент на вершы Н. Загорскай выканала салістка ДАВТа БССР Л. Крывёнак. Песню «Бацькоўская зямля» на аднайменны верш паэткі праспяваў аўтар — кампазітар А. Чыркун.**

**Выступілі таксама дзіцячы фальклорны калектыў з Міханавіч «Жавароначкі» і дзяржаўны фальклорны гурт «Купалінка».**

**А пасля рэй вяла сама Н. Загорская: чытала вершы, адказвала на пытанні прысутных.**

Тэкст і фота Ул. КРУКА.

# АДКУЛЬ ВЫ, ЯК ВАС ЗВАЦЬ?

**(Пачатак на стар. 5).**

значэння рыма-каталіцкай царквы і асабліва прагрэсіўнасці уніяцтва на Беларусі. Чым гэта выклікаецца, асабліва тлумачыць не варта. Афіцыйная манапольная ідэалогія, пацярпеўшы агульнапрызнанае паражэнне, сама гатова пайсці на любую унію. Цяпер па сваім уплыве яны ўжо далёка не роўныя. Магчыма, і не варта аддаваць перавагу адной перад другой. Увагі даследчыка можа заслугоўваць хіба што рэальная падзея або канкрэтны факт. Сам я, напрыклад, ніяк не магу пагадзіцца з яўнай дэфармацыяй першароднай існасці Полацкага Сафійскага сабора і з той, па меншай меры, легкадумнасцю, з якой рашаўся лёс рэстаўрацыі шматпакутнага храма. Пагалоўная мода на ўстаноўку арганаў у праваслаўных цэрквах па ўсёй краіне не абмінула і яго. І тут устанавілі арган. Ды яшчэ з якой урачыстай помпай і пахвальбой. Чаго калісьці не дамагліся ні езуіты, ні уніяты, выстараліся ўласныя данайцы, што не маглі не прадбачыць, якога траянскага каня цягнуць у нашу старажытную духоўную цытадэль для новай каталіцкай экспансіі на Беларусі. Пра гэта я пісаў у «Правде» яшчэ ў 1982 г. Цяжка сабе ўявіць, што раптам загучалі б арганы ў Кіеўскай, Ноўгарадскай Сафіях... У Полацкай гэта, аказваецца, магчыма. Сам князь Усяслаў вунь ажно з Кіева слухаў ранні звон са сваёй Полацкай Сафіі і цешыўся яго слаўным харaством. Мы ж, няўдзячныя нашчадкі, даведваемся пра гэта толькі са «Слова аб палку Ігаравым».

Не толькі бяздумна, а і злачынна распарадзіліся гаспадары пасляваеннага Мінска, без жалю і літасці вынішчыўшы карані, якія звязвалі і Мінск з геніяльным «Словам» — найвялікшым духоўным помнікам трох братніх славянскіх народаў. Ад гістарычнага квартала пад назвай Няміга не засталося і следу.

Дэкаратыўна абнавіўшы Траецкае прадмесце, адбудоўшчыкі першым чынам паклапаціліся абсталяваць у ім карчму, пабудаваць ЗАГС, у дадатак засведчыўшы сваю непісьменнасць у перакладзе на беларускую: «Запіс актаў грамадскага стану». Замест: грамадзянскага—грамадскага. Такім дробязям у нас не надаецца ніякай увагі. Усё непісьменнае ўспрымаецца як беларускае. «Аб'яднанне калгасных кірмашоў г. Мінска»—выбіта жалезнымі літарамі на чыгуннай шыльдзе Камароўскага рынку. Дзеля чаго аб'ядноўваюць кірмашы? Хай сабе яны адбываюцца, дзе катораму ёсць патрэба. Славутая казка Андэрсена «Новое платье короля» была абвешчана па беларускім радыё—«Новая сукенка караля». Госпадзі, колькі ўсяго падобнага можна пачуць, прачытаць за адзін толькі дзень—ачмурэеш, адурэеш!

Яшчэ ў слоўніку Даля «халтура» пазначана як мясцовае слова. У наш час яно пагалоўна вядома скрозь і ўсюды — ад прафесара да слесара-вадаправодчыка. У нас, у беларусаў, блізкае па гучанні, яно яшчэ мае і іншы сэнс — хаўтуры. Пра нядобрасумленную ж работу у нас гаварылася — тандэтная, зробленая на тандэт, або, як і цяпер кажуць мае землякі, — на шармака.

На тандэт, на шармака, напаканец рук робіць усё, за што ні возьмецца, адбываючы павіннасць, навалач без памяці, роду і племені.

Халтура, узведзеная ў галоўны паказчык нашых поспехаў і дасягненняў, нарэшце, так і завяршылася хаўтурамі і самому парадку, і яго энтузіястам, і натхніцелям.

Нямала пастараліся халтуршчыкі з той жа бязроднай і бяспамятнай навалачы і ў галіне культуры. Усё прычасалі пад агульны тандэт, нават тое, што ўцалела ў Мінску пасля вайны, на яго руінах. Якая, скажам, была неабходнасць пазбаўляць горад яго гістарычнага асяродку, яго самай традыцыйнай прыкметы — гарадской ратушы, вежавага гадзінніка на ёй, па якім мінчане звяралі час, а маладыя пары прызначалі спатканні — многія пакаленні мінчан. Уцалелую ратушу прыстасавалі пад так званы Дом фізкультуры, які цяпер побач з Палацам спорту нікому непатрэбны! Гэтак жа па-заліхвацку абышліся рэканструктары з тэатрам Янкі Купалы, мадэрнізаваўшы яго так, што той цалкам страціў падабенства з будынкам, у якім засноўваўся і сам тэатр і ў якім адбываліся многія іншыя памятныя падзеі ў гісторыі рэспублікі.

Што ж, дзеля прыхамаці, дзеля мадэрнісцкага свербу кожнага новага ідэйнага лідэра або граданачальніка паступілася не толькі радаслоўем горада, а праўдай самой гісторыі. Той самай, з якой нашы прашчуры і продкі, нашы дзяды і бацькі пытаюцца нас, сваіх нашчадкаў:

— Адкуль жа вы, як вас зваць?

**(Працяг у наступным нумары «ЛіМа»).**



# БЫЎ. ЁСЦЬ. БУДЗЕ.

Да 60-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча.

## Ён ачышчае нашы душы

Недзе разам з вершамі Уладзімір Караткевіч пачаў пісаць і прозу, і ўжо ў 1961 годзе выйшаў яго першы празаічны зборнік «Блакіт і золата дня». У той час я працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» (тады яно называлася больш афіцыйна — Дзяржаўнае выдавецтва БССР), і мне выпала быць рэдактарам гэтай першай кніжкі прозы Уладзіміра Караткевіча. Я ўжо ведаў яго як чалавека, як асобу і як паэта. Ужо чытаў яго вершы, якія мяне хвалявалі і краналі да слёз. Верш, прысвечаны паэту Паўлюку Багрыму з Крошына, з-пад Баранавіч, — гэта цэлая паэма лёсу нашага беларускага народа і нашага краю, гісторыя таленту на нашай забранай зямлі, якому не суджана было сказаць сваё важкае слова, бо жыццё не спрыяла яму: «бацька кіямі забіты», а яго самога, падлетка Паўлюка, забіраюць у рэкруты, адтуль ён вяртаецца ўжо старым змучаным чалавекам, які можа хіба што каваць жалеза, а не пісаць вершы. Прачытаўшы верш пра Паўлюка Багрыма, я падумаў, што гісторыя вяртае нам доўг: Уладзімір Караткевіч скажа для нас і пра нас тое, чаго не змог, не здолеў ці не паспеў сказаць Паўлюк Багрым. Хоць будзе гэта на новым этапе, на новым вітку.

І з тым большай радасцю і хваляваннем узяўся я рэдагаваць прозу маладога паэта. Скажу, што ў нас не было асаблівых спрэчак ці канфліктаў, мы з ім вельмі хутка знайшлі агульную мову. Памагла нам добрая станоўчая рэцэнзія на гэты зборнік нашага ўжо і тады прызнанага празаіка Янкі Брыля, якая надавала смеласці і маладому рэдактару.

І калі тагачасны галоўны рэдактар выдавецтва Іван Казека выклікаў мяне і Лідзію Арабей, якой ён даручыў чытаць рукапіс пасля майго рэдагавання, то я пачуваў сябе даволі ўпэўнена — у Арабей была таксама спрыяльная пазіцыя да рукапісу Уладзіміра Караткевіча. Мяне, як рэдактара, галоўны паўшчуваў за тое, што ў Караткевіча шмат засталося іншамоўных слоў, што яго літаральна трэба чытаць са слоўнікам. Ну што гэта такое: курульнае крэсла? А фаскі? А ліхтары? Адкуль чытачу ведаць усе гэтыя лацінскія словы? І чаму мы павінны маліцца на іх, кажучы: ах, які ты мудры, Караткевіч, які ты эрудыт, які ты вундэркінд!

Можна было спрачацца, можна было не згаджацца, але гэтым можна было яшчэ больш нашкодзіць маладому аўтару: начальства вельмі не любіць, калі рэдактар заступаецца за аўтара ды яшчэ аспрэчвае яго, начальства, думку. Мы з Лідзіяй Арабей ківалі толькі галовамі: згодны з вашай крытыкай, шаноўны галоўны рэдактар, улічым на другі раз... Толькі ў адным апавяданні была ўсечана канцоўка — надта натуралістычная, як сказаў галоўны, а астатняе ўсё праходзіла. Асабліва я баяўся за аповесць «Цыганскі кароль», у якім было шмат падтэкстаў.

Мы выйшлі ад галоўнага і з палёгкай уздыхнулі — Уладзімір Караткевіч, празаік, быў на прамой дарозе да чытача.

Больш мне ў той час рэдагаваць прозу Караткевіча не давялося: ён рабіўся вядомы, яго ўсе хацелі рэдагаваць.

Праз шмат год, калі я працаваў ужо ў часопісе «Маладосць», мне давялося зноў рэдагаваць прозу Уладзіміра Караткевіча. У «Маладосці» друкавалася яго аповесць «Лісце каштанаў», «Зброя» (фактычна вялікі раздзел да эпапеі «Каласы пад сярпом тваім»), а пасля раман-дэтэктыў «Чорны замак Альшанскі».

Уладзімір Караткевіч стаў ужо на гэты час знакамітым пісьменнікам, шмат выдаваўся, стаў папулярны дома і за мяжой. Але як чалавек, як асоба ён мала ў чым змяніўся — быў гэткі самы шчыры, адкрыты, часам рэзкі, калючы, смелы, які і быў у маладосці. Мо толькі пабольшала ў ім іроніі і самаіроніі. Ды мо менш ён стаў паказваць сваю эрудыцыю, чым у маладыя гады, — няйначай, каб не пакрыўдзіць прысутных, ён звычайна гаварыў прыблізна так: «Як вам вядома, на гэты конт Васіль Осіпавіч Ключэўскі ў другім томе свайго «Курса русской истории» пісаў...» — і мог цытаваць добры кавалак тэксту на рускай мове, а мог экспромтам і перакладаць.

Яго дасведчанасці і эрудыцыі можна было пазайздросціць, але зраўняцца з ім, відаць, зусім нерэальна.

Калі мы ў «Маладосці» прачыталі яго аповесць «Зброя» і зрабілі яму заўвагі на палях рукапісу, праз некалькі дзён ён прынёс нам яго назад — і на кожную нашу заўвагу ён выстаўляў па некалькі перакананаўчых аргументаў, спасылаючыся на самыя аўтарытэтныя крыніцы. Гэтак было прыблізна і з раманам «Чорны замак Альшанскі». І шмат якія нашы заўвагі давялося здымаць.

А ўся «палеміка» на палях, калі б яе спісаць, мела б вельмі вялікую цікавасць для кожнага, хто любіць Караткевіча і цікавіцца яго творчасцю і жыццём. Здаецца нават, што Яўген Міклашэўскі, які тады працаваў са мной у аддзеле прозы, сёе-тое сабе занатаваў з той «палемікі» на палях рукапісу.

І апошні візіт у «Маладосць» Уладзімір Караткевіч зрабіў, калі прынёс нам п'есу «Маці ўрагану». Перад гэтым ён доўга хварэў, быў нават у рэанімацыі, аднак адолеў хваробу, хоць адчуваў сябе не надта добра. Быў ён і з выгляду і настроем не такі, як раней: з жартам, з досціпам, часам з анекдотам ці якой смешнай гісторыяй, якая часцей за ўсё здаралася з ім самім.

Ён аддаў нам п'есу, трохі пракаменціраваў яе, потым распытаў, што новага ў рэдакцыі, каго друкуем з цікавых маладых аўтараў, нядоўга пасядзеў і пайшоў.

Хто мог падумаць тады, што гэты яго візіт будзе апошні? 25 жніўня таго ж 1984 года Уладзіміра Караткевіча не стала.

Ён ужо не ўбачыў сваёй п'есы ў друку, не патрымаў у руках 12-ы нумар «Маладосці». П'еса «Маці ўрагану» — мо самая моцная з яго п'ес. Тут, здаецца, ён пісаў нешта вельмі блізкае для сябе. Я бачу тут нешта нават біяграфічнае: інтэлігент і народ, паэт і народ, герой і народ. Як адно дапаўняе другое, адно без другога — амаль што нічога не значаць. Народ — гэта сіла, інтэлігент, герой — галава, розум. А калі розум аб'ядноецца з сілай, гэта ўжо будзе разумная, відушчая сіла, супроць якой ніхто не ўстаіць.

У мяне было яшчэ некалькі сустрэч з Уладзімірам Караткевічам у тое жалобнае лета. Мы сустракаліся ў скверыку ля тэатра Янкі Купалы. Аднойчы мы прайшлі з ім на вуліцу Леніна, пасядзелі на лаўцы. Грэла сонца, было цёпла, ён збіраўся яшчэ схадзіць на галоўпаштамт, нешта некаму выслаць. Я ўручыў яму паперу, якую выпісаў са свае запісное кніжкі — пра яго, Уладзіміра Караткевіча. Ён тады прачытаў яе, глянуў на мяне, скупа ўсміхнуўся і сказаў: «Ці не гіпербалізуеш ты, дзед?».

Там была мая ацэнка яго творчасці, яго працы. Мо я памыляюся, аднак лічу і буду даказваць, што Уладзімір Караткевіч быў геніяльным чалавекам, геніяльным пісьменнікам. Такія людзі, як ён, нараджаюцца рэдка, да таго ж мала жывуць, не ўсё паспяваюць зрабіць, што маглі і што думалі.

За што наш чытач любіць Караткевіча? Што добра, цікава піша? Гэта так. Але і пра што піша — таксама. І мо самае важнае — піша пра тое, пра што ўсе астатнія неяк сарамліва маўчаць: пра любоў да свайго краю, да вытокаў, да каранёў, да таго месца, дзе нарадзіўся і рос чалавек беларускі—да Беларусі. Ён, Караткевіч, іграе тую мелодыю, якую нам спявала родная маці над калыскай і якую мы паступова пачалі забываць, якую ўжо не заўсёды можам перадаць сваім дзецям. А Караткевіч вядзе менавіта гэтую родную нам мелодыю, якая шмат у каго яшчэ выціскае з вока слязу.

Уладзімір Караткевіч, калі гаварыць высокім стылем, уваскрашае нас ад доўгага летаргічнага сну, якім мы доўга спалі. Ён ачышчае нашы душы ад наноснага бруду, прасвятляе нам розум, вяртае нам тое, што мы страцілі па злой волі чужых нам людзей, якія доўгі час мелі дачыненне да нашага жыцця. Аднак жа гісторыя не заўсёды скупая: яна дала нам Уладзіміра Караткевіча, які мо цяпер робіць тое, што рабілі Янка Купала і Якуб Колас напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі. Бо званіць у званы памяці людской трэба заўсёды, толькі часам гэтага няма каму рабіць — няма смелага, магутнага генія. Ён з кагорты такіх, як Скарына, Гусоўскі, Багдановіч, Купала, Колас, Мележ. Ён рабіў і робіць сваімі творамі каласальную, тытанічную працу, якую можа рабіць не кожны, а толькі гігант.

Нават з адлегласці некалькіх гадоў, калі Уладзімір Караткевіч заўчасна пайшоў ад нас, яго постаць вымалёўваецца больш контурна і ярка.

Ніяк нельга змірыцца з думкаю, што Уладзіміра Караткевіча няма сярод нас, што ён не можа разам з намі парадавацца сёння тым пераменам, калі ломяцца ўшчэнт старыя падгнілыя запруды бюракратызму, дэмагогіі, бяздушша і кар'ерызму. Ён быў бы шчаслівы бачыць і разумець, што ўсім сваім жыццём і ўсёй сваёй творчасцю менавіта ён сам разбураў гэтую плаціну застою і коснасці, якая сёння рухнула назаўсёды.

І яшчэ ўяўляю, як глыбока раніла б яго чулую душу падзея зусім іншага вымярэння— чарнобыльская катастрофа. Упэўнены, што Уладзімір Караткевіч, які не любіў заседжвацца дома надоўга, адным з першых кінуўся б на месца здарэння — высвятляць, вывучаць, браць інтэрв'ю ў відавочцаў, каб дакапацца да прычын, чаму магла здарыцца такая бяда і хто ў ёй вінаваты. І што трэба рабіць, каб такое не магло паўтарыцца — ніколі на нашай зямлі.

...Апошні свой паэтычны зборнік Уладзімір Караткевіч назваў сімвалічна — «Быў. Ёсць. Буду». У гэта нельга не паверыць. Ён быў, ёсць і будзе заўсёды сярод жывых.

Уладзімір ДАМАШЭВІЧ.

---

Вальдэмар КАЛІНІН

### Цыганскі дзякуй Караткевічу

Аршыца там усё цячэ  
І ветрык кволіцца яшчэ,  
Адтуль свой не спыняе рух  
Ягонай сілы вечны дух.

Паветра перакажа зноў,  
Як неслі коні цыганоў.  
Імпэт цыганскі сцішыць мог  
Адно што сам Вялікі Бог.

Абсягі віцебскай зямлі,  
Шагалу пэндзаль вы далі  
І Караткевіча радкі  
Багаславілі на вякі.

Усе спяшайцеся сюды!  
Пакайцеся за ўсе гады,  
Што вы не шанавалі спраў  
Таго, каго вам Бог паслаў.

З цыганскай

Пераклаў Рыгор Барадулін

стве культуры, і ў Міністэрстве народнай адукацыі БССР заклапочаны вырашэннем праграмы эстэтычнага выхавання. Але на што накіраваны намаганні і сродкі, прычым немалыя? Ну, скажам, на павелічэнне колькасці музычных школ. Навошта? Калі там будзе весціся справа так, як яна вялася дагэтуль?! Калі большасць дзяцей выходзіць з такіх школ, ненавідзячы музыку, і да музычнага інструмента ўжо не падыходзіць да канца жыцця? Лепш бы тыя сродкі выдаткаваць на рэальнае паляпшэнне справы музычнага выхавання.

Я падзяляю меркаванне, якое ўжо выказвалася ў публікацыях «ЛіМа»: у музычных школах павінны вучыцца толькі таленавітыя дзеці, сетку ДМШ трэба нават скарачаць. А вось у агульнаадукацыйных школах зрабіць музыку такім жа важным прадметам, як літаратура, матэматыка, фізіка з выкладаннем з першага па апошні класы. Іншая справа — як выкладаць музычную літаратуру, якія патрэбны настаўнікі?

Пагаворым і пра гэта.

На Беларусі выкладчыкі, настаўнікі музыкі (пазначу ўсе прадметы музычнага цыкла адным гэтым словам) — выхаванцы, у асноўным, музычна-педагагічнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага і Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. (Сярэднія спецыялізаваныя навучальныя ўстановы паўтараюць іх накіраванасць).

Задумаемся, на што скіравана дзейнасць кансерваторыі? У чым яе сэнс?

Тут рыхтуюць салістаў-выканаўцаў, з якіх 99% ніколі не будуць салістамі; музыказнаўцаў-навукоўцаў, большасць з якіх на развіццё навукі ніяк не ўплывае; харавікоў-дырыжораў, якія чамусьці ніяк не ўздымуць прэстыж харавой справы ў рэспубліцы; выкладчыкаў музыкі, якія не ведаюць ні дзіцячай, ні падлеткавай псіхалогіі, не валодаюць ні рыторыкай, ні методыкай выхавання. А ўсё разам ніяк не ўплываюць на павышэнне культурнага ўзроўню моладзі ў прыватнасці і народа ўвогуле, ніяк не спрыяюць стварэнню высокай духоўнай атмасферы ў грамадстве. Безумоўна, БДК мае шэраг дасягненняў, цікавых выпускнікоў, але тут гаворка ідзе пра агульную скіраванасць, уплывовасць яе дзейнасці. І хаця ў кансерваторыі ёсць і рэдактарская практыка, і методыка, і псіхалогія — усё гэта для «птушкі». Пра гэта адкрыта амаль не гавораць, а, можа, нават і не надта думаюць, але вынік навучання, у асноўным, менавіта такі.

Калі сумленна задумацца, дык увесь гэты навучальны працэс з ягонымі вынікамі пакажацца глыбока амаральным, трэба пра гэта крычаць, а мы ўсе спакойна жывём і штампуем бясплодных музыкантаў. Калі ўлічыць, што яркіх талентаў у прыродзе мала, дык дзеля чаго вучыць паводле закаснелай схемы астатніх? Цяпер, як ніколі, патрэбныя асветнікі. прапагандысты, мастацтва. Бацькаўшчына ў небяспецы — бездухоўнасць, абыякавасць агарнула значнае кола моладзі, а «носьбіты духоўнай культуры» жывуць, нібы ў колбе, далёкія ад усіх працэсаў у грамадстве...

Педагагічны інстытут таксама выпускае спецыялістаў, не вельмі падрыхтаваных да жывой працы ў агульнаадукацыйнай школе.

Звярніце ўвагу на тое, што кажа спецыяліст, загадчык кафедры Мінскага педагагічнага інстытута Н. Грышановіч:

**— Я ўпэўнена, што патрэбна РЭВАЛЮЦЫЯ ў музычнай адукацыі. Нас душыць акадэмізм, няправільнае разуменне прафесіяналізму. У нас, выкладчыкаў розных музычных дысцыплін, няма ўмення працаваць адзіным фронтам дзеля фарміравання свядомасці, светапогляду студэнта, яго актыўнай творчай і грамадзянскай пазіцыі. Патрэбны рэвалюцыйныя змены, а гэта неспакой, клопат, лепш ціха сядзець і вучыць, як вучылі яшчэ мяне: рабіць стаўку на развіццё памяці, слыху, на веданне біяграфіі кампазітара і г. д. Гэта, безумоўна, лягчэй. А развіваць здольнасць да самастойнага творчага аналізу, каб самому разбірацца ў незнаёмым творы, знайсці асацыяцыі з іншымі з'явамі мастацтва — гэта быццам нікому не патрэбна. Наша навучанне фармальнае, усе музычныя прадметы раз'яднаныя, кожны педагог круціцца ў вузкім коле сваіх праблем. Нам жа трэба выхоўваць студэнта такім чынам, каб ён САПРАЎДЫ РАЗУМЕЎ музыку, мог зрабіць яе сродкам духоўных зносін.**

**Абсурдныя і нашы навучальныя планы. Падумайце толькі: на працягу ДВУХ курсаў на музычна-педагагічным факультэце трэць часу забірае медыцына! Затое мастацтва ў плане няма, на апошнім курсе толькі каля 30 гадзін даецца «для знаёмства» з нацыянальным мастацтвам!**

**А як у нас праводзяцца дзяржаўныя экзамены? Як ацэньваюцца студэнты? Яны здаюць кіраванне хорам, экзамен па фартэпіяна, дзе павінны выконваць складаную канцэртную праграму. А простую песеньку падабраць па слыху яны так і не здольныя (практычнае ж жыццё вымагае ад іх часцей менавіта гэтага). Нашы выкладчыкі скасавалі нават такую магчымасць, якая закладзена ў новай праграме, як абарона дыплому па выніках эксперыменту ў школе. Выкладчыкі лічаць гэта немэтазгодным (у педінстытуце!), яны лепш будуць паказваць сваіх студэнтаў з сольнымі праграмамі. Як і паўсюль, праца «на паказ», а не дзеля канчатковага выніку.**

**Аднак пры ўсіх недахопах у падрыхтоўцы нашых студэнтаў яны ўсе ўжо зараз маглі б весці на прыстойным узроўні ўрокі музыкі ў агульнаадукацыйных школах. Але вось тут мы падыходзім да самага цікавага.**

**Каля 50 чалавек канчае штогод наш факультэт — гэта нямала. А з іх у школе застаецца чалавек пяць, і тых праз некалькі гадоў менее. Чаму нашы выпускнікі не ідуць у школы? Здавалася б, і зарплату павялічылі, але не ідуць.**

**Вясковыя школы — малакамплектныя, і настаўнік музыкі не набярэ там стаўку. У настаўніка ФІЗКУЛЬТУРЫ стаўка не залежыць ад колькасці гадзін, а ў музыканта залежыць. Настаўнік-музыкант на вёсцы не пражыве, калі апроч урокаў не «возьме» клуб ці яшчэ штонебудзь.**

**У гарадской школе іншая справа — гадзіны ёсць аж на дзве стаўкі, і тым не менш сёння ў 16 школах Мінска няма настаўнікаў музыкі! Уцякаюць з гарадскіх школ. І хаця наш інстытут не дае методыку працы ў дзіцячых садах, нашы выхаванцы ідуць лепш туды ці ў школы з музычным ухілам, абы толькі не выкладчыкамі ўрокаў музыкі ў агульнаадукацыйных, дзеля чаго іх рыхтавалі. Парадокс: настаўнік музыкі, які вельмі патрэбны сёння ў школе, не патрэбны самой школе, бо яна жыве старымі ўяўленнямі пра выхаванне, і настаўнікі музыкі... выцясняюцца школай.**

**Так, дагэтуль яе кіраўніцтва ўвогуле не цікавіцца ўрокамі музыкі. Дырэктары, завучы заходзяць на любыя заняткі, акрамя музычных. Яны — лішнія, хаця гэта адзіная нагода, дзякуючы якой можна эстэтычна выхоўваць чалавека, вучня. У большасці школ, нават сталічных, няма нармальных кабінетаў музыкі з сучаснай радыёапаратурай, з фартэпіяна. Здзіўляюцца, што моладзь захапляецца адно толькі рокам — а што робіць школа, каб пашыраць музычны кругагляд вучняў? Дома школьнікі слухаюць рок-музыку на стэрэаапаратуры ў добрай якасці, а ў школе?**

**Кабінета музыкі няма, апаратуры, інструментаў няма, педагог-піяніст школе ўвогуле не патрэбны, патрэбны баяніст, акардэаніст, гітарыст, каб мог хадзіць з інструментам па класах і развучваць песні накшталт «Надзеі», «Вальсу аб вальсе», «Песні народнага адзінства» і г. д., «агучваць» школьныя лінейкі. Дырэктару школы патрэбны тапёр, які б правёў ранішнік, вечар, падрыхтаваў нумар для агляду самадзейнасці, развучыў з дзецьмі песні, потым усіх выставіў у хор — чым паболей, — каб тыя гучна пракрычалі песню. Вядома, харавая культура тут адсутнічае, бо ўмоў у школе для сапраўдных заняткаў харавымі спевамі таксама няма.**

**Як афіцыйна ацэньваецца эстэтычнае выхаванне ў школе? Калі ёсць там музычныя калектывы, якія занялі месца на раённых, гарадскіх аглядах, тады з эстэтычным выхаваннем усё добра.**




А ПАКУЛЬ — ВОСЬ ТАК...

Фота А. КЛЕШЧУКА.

**Але хор гэты як творчая адзінка не існуе, гэта фікцыя! І ўрокаў музыкі таксама няма. А ёсць паказуха! Вось дзеля гэтага і падбіраюць дырэктары настаўнікаў музыкі. Не патрэбны тут адукаваныя, высокапрафесійныя кадры. У школах Мінска 50—60% настаўнікаў музыкі не маюць музычнай адукацыі, а спецыялістам месца няма... Такое і стаўленне да самога прадмета, да настаўніка — дыскрымінацыйнае. Калі трэба вучняў зняць з урока, здымаюць не з фізікі, не з матэматыкі, а з музыкі, прычым дасюль у школе ўпарта называюць яго не ўрок музыкі, а «спевы».**

**Я ўпэўненая, што ў школе ў выкладанні музыкі трэба перанесці акцэнт з пазакласнай работы на вучэбную. Але гэта будзе тады, калі кіраўніцтва — райана, гарана, дырэктары школ зразумеюць важнасць эстэтычнага выхавання, зразумеюць, што без урока музыкі не выхаваць творчай, духоўна багатай асобы, паўнацэннага члена паўнацэннага грамадства. Пакуль такога разумення няма.**

**Што ж да думкі М. Казініка наконт Дома музыкі, мне здаецца, гэта не вырашыць праблему. Неабходна СІСТЭМАТЫЧНАЕ эстэтычнае выхаванне з шасці гадоў, а то і раней. Дом музыкі не зможа ахапіць усіх старшакласнікаў, яго прапускная здольнасць не зможа быць вялікай. Лепш, на маю думку, захаваць урокі музыкі ў старэйшых класах школы, а да гэтага прыдасца яшчэ і Дом музыкі—вось тады, магчыма, нешта скранецца.**

**Увогуле, я лічу, тым, хто заклапочаны справай эстэтычнага выхавання моладзі, у каго ёсць канструктыўныя, прагрэсіўныя прапановы, трэба даць магчымасць эсперыментаваць. Напрыклад, стварыць калектыў аднадумцаў з адзінай наватарскай канцэпцыяй, нешта накшталт аўтарскай школы. Даверыць яму па-свойму распрацаваць навучальны план падрыхтоўкі настаўнікаў музыкі, патрэбных СЁННЯ, распрацаваць сваю методыку, даць магчымасць ажыццявіць гэта на практыцы. Чаму музычна-педагагічныя факультэты інстытутаў павінны быць усюды аднолькавыя? Калі б далі дазвол зрабіць свой арыгінальны план нашаму педінстытуту, магчыма, і ў нас знайшліся б творчыя, зацікаўленыя людзі. Хаця зноў-такі школе пакуль яны не патрэбныя...**

ПРАБЛЕМЫ, праблемы... Ці ёсць выйсце з гэтага лабірынта? Чаму па-ранейшаму тыя, хто рыхтуе настаўнікаў музыкі, адносяцца да розных міністэрстваў — музычна-педагагічны факультэт да Міністэрства народнай адукацыі, кансерваторыя да Міністэрства культуры? Чаму кожнае з іх распрацоўвае ўсё новыя праграмы, а воз праблем — ні з месца?

Кожны ў сваім замкнёным коле быццам і чэсна робіць сваю справу, а між тым агульны вынік жахлівы: услухайцеся, як гавораць школьнікі, як яны сябе паводзяць, якая ў іх мова — і стане ясна, што да культурнага грамадства нам ой як далёка. Але гэта толькі знешнія праявы бескультур'я. Значна страшней груз духоўных страт — эмацыянальная глухата, безыніцыятыўнасць, абыякавасць, жорсткасць. І калі ўспомніць, якімі большасць дзяцей прыходзяць у школу — жывымі, зацікаўленымі, усхваляванымі, дык трэба прызнаць, што наша таталітарная сістэма выхавання робіць усё, каб не ўзгадаваць індывідуальнасць, асобу, а зрабіць вінцік сістэмы. А машына, тым часам, пачала раскручвацца ды рассыпацца...

Як жа будзем жыць далей?! Магчыма, новы беларускі парламент усё ж зразумее, што першачарговай задачай побач з эканамічнай рэформай павінна быць распрацоўка і прыняцце перспектыўнай канкрэтнай праграмы па адукацыі і эстэтычным выхаванні моладзі, бо тут — пытанне будучыні нашай суверэннай рэспублікі. А пакуль час ідзе, і чым далей мы адкладваем вырашэнне праблем нашага духоўнага жыцця, тым менш спадзяванняў на прасвятленне гэтай будучыні.

Ірына МІЛЬТО.

# БУДЗЕМ ЧАКАЦЬ

## Да выхаду ў свет фальклору беларусаў-перасяленцаў

*Інстытут гісторыі, філалогіі і філасофіі Сібірскага аддзялення АН СССР пачынае выданне фальклору народаў Сібіры і Далёкага Усходу. Мяркуецца выдаць 60 тамоў вуснай народнай творчасці як карэнных народаў рэгіёна — якутаў, удэгейцаў, эвенкаў і іншых, так і перасяленцаў — украінцаў, беларусаў, татар, яўрэяў. Для падрыхтоўкі беларускага тома ў Акадэмію навук БССР прыехала дацэнт кафедры рускай літаратуры, Далёкаўсходняга дзяржуніверсітэта, фалькларыст СВІРЫДАВА Любоў Міхайлаўна, з якой мы і гутарым.*

— Любоў Міхайлаўна, адкажыце напачатку, як узнікла ідэя такога грандыёзнага выдання?

**— Задума шматтомніка належыць вучоным Бурацкай акадэміі навук. Збіранне фальклору ў нашых рэгіёнах распачалося ў 50-ых гадах, з 60-ых вялася экспедыцыйная работа, даследаваліся так званыя «фальклорныя гнёзды».**

— У тым ліку і беларускія?

**— Так. Перасяленні ў Сібір з Беларусі і Украіны асабліва масавымі былі ў пачатку стагоддзя. Найперш пасылалі хадакоў — як бы ў разведку. Тыя вярталіся з фантастычнымі апісаннямі краю, дзе зямля з небам сыходзяцца і дзе адзін толькі недахоп: не знайсці каменя, каб прыцісьнуць капусту ў бочцы. Паданні сведчаць, што, ад'язджаючы ў далёкі край, сем'і бралі з сабой па каменю...**

— Цікавы факт. А як жа, скажыце, падключыліся да работы беларускія навукоўцы?

**— Мы зразумелі, што без іх дапамогі проста не абыдземся. Першыя сустрэчы былі арганізацыйныя, нас наведаў доктар філалагічных навук прафесар К. Кабашнікаў, ён і будзе рэдактарам беларускага збору. Потым — летась і сёлета — у якасці кансультантаў прыязджалі У. Васілевіч, І. Карашчанка, Т. Варфаламеева. Мы сумесна працавалі, паднялі надзвычай цікавыя пласты беларускага фальклору, які, безумоўна, уяўляе сабой мастацкую каштоўнасць.**

— Якія з жанраў найбольш захаваліся ў перасяленцаў з Беларусі?

**— Вялікай разнастайнасцю вызначаюцца абрадавыя песні, у тым ліку вясельныя. Цудоўныя балады. І непераўзыдзеныя замовы ад хвароб.**

— Мабыць, на чужой зямлі ў іх была асаблівая патрэба?

**— Магчыма. Трэба адзначыць, што перасяленцы стараліся жыць кампактна, адбылася своеасаблівая кансервацыя, што і дапамагло дзецям і ўнукам старажылаў захаваць традыцыйны лад жыцця і культурную спадчыну.**

— Друкавацца творы будуць па-беларуску?

**— Мушу прызнацца, што наконт гэтага ў нас былі сумненні. Аднак супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР пацвердзілі выдатную захаванасць мовы ў старых людзей і развеялі нашы сумненні.**

— Ці ёсць цяжкасці ў здзяйсненні задумы?

**— Фальклярыстамі Далёкага Усходу і Сібіры назбірана велізарная колькасць твораў беларускай вуснай народнай паэзіі, але памер кожнага тома ўсяго 20 аркушаў. На жаль, большасць матэрыялу застанецца па-за межамі выдання.**

— Варта і нашым выдаўцам зацікавіцца гэтым унікальным матэрыялам, бо фальклор перасяленцаў для нас пакуль што некранутая цаліна. Засталося папытаць, калі выйдзе ў свет беларускі том шматтомніка?

**— Мяркуецца выдаць яго ў 1994—1995 гадах.**

— Будзем чакаць. Дзякую, Любоў Міхайлаўна, за гутарку.

НАШ КАР.

Тэатр

# ХАЙ І НЕ САМЫ ЯРКІ ПРЫКЛАД...

Мінуў час, калі можна было падманваць сябе ілюзіямі, што ў нашым тэатры ўсё «на ўзроўні», усё «як у людзей». Зараз мы ведаем, што той узровень невысокі, а «ў людзей» проста не лепей за нас. Хварэе краіна, хварэе грамадства, — ці можа быць здаровым мастацтва?.. Балюча ўсведамляць усё гэта— але што яшчэ нам застаецца, як не глядзець праўдзе ў вочы? Можа, адна яна — горкая, як хінін, непадкупная, як лязо скальпеля, — здольная ўратаваць.

Аднак пакуль што дзе найменш убачыш і пачуеш праўду, дык гэта ў нашым тэатры. Не, наконт жахаў, бруду, лаянкі ці аголенасці, дык тут мы даўно ўжо «на ўзроўні». Нават «поспеху дасягнулі»: выхавалі ўжо пласт гледачоў, якія ідуць у тэатр «на гэта». Толькі не будуць яны трывалымі гледачамі, паверце шматгадоваму вопыту, не будуць, бо «гэта», прытым у імпартнай сервіроўцы, знойдуць у відэатэцы...

А спакон веку глядач ішоў у тэатр — у Афінах і ў Маскве, у «Глобус», «Пале-раяль» ці ў Мастацкі — на спатканне з прыгажосцю і праўдай. І чым больш брыдкай ці хлуслівай была акаляючая рэчаіснасць, тым больш быў попыт на прыгажосць і праўду. Не верыцца, што стрымгаловы прагрэс зруйнуе і законы дыялектыкі. Але ці можна сядзець склаўшы рукі і чакаць, калі «крывая» вывязе з крызісу тэатр? Не вывязе «крывая», і доказы побач — пусцеюць залы, нават прынцып «усё на продаж» не дапамагае (за апошнія гады наш Мінск трывала набывае славу нетэатральнага горада). Пасля шчаслівых дзён «Аўдзея», «Дракона», «Памінальнай малітвы» ў купалаўцаў усталяваўся нейкі рэспектабельны сонны спакой, які не парушылі ні выбух «Вар'яцкага жыцця», ні туга «Эмігрантаў» — спектакляў прыстойных, але надвор'я не зрабіўшых. І ўжо зусім ніяк не адазвалася на тэатральным жыцці «Швейцарыя! Швейцарыя!» А можа, адазвалася?..

Зусім зразумелыя падставы, па якіх тэатры запрашаюць замежных рэжысёраў на пастаноўку. Іншы раз яны бываюць мастацкія, але часцей — у межах «культурнага абмену»: мы ў вас, вы ў нас... П'еса нядрэнная, хоць асаблівымі мастацкімі вартасцямі і не адзначана, пастаноўка — з тых, што трынаццаць на тузін, прыкметных акцёрскіх адкрыццяў не адбылося. Вось і ў прыдатных эпізодах артысты са смакам і з рознай мераю густу націскаюць, рэжысёр ім асабліва не замінаў, бо па першым знаёмстве не ведаў, хто на што здатны... І трагікамедыя, якая, валодаючы матэрыялам і балючым і смешным, мелася расказаць аб тым, як чалавек пражывае «не сваё» жыццё, аб адзіноце і холадзе вечнага расстання, аб несвабодзе і прымусу, аб летуценніках, фантазёрах, дзіваках, — ператварылася ў нешта не надта выразнае. Бо ўсё істотнае неяк самлява адсунулася ўбок, у цень, а ў святле рампы нас прыняліся з усіх сіл забаўляць — перш-наперш немудрагелістымі, але «на грані рызыкі» танцамі (нездарма сярод запрошаных быў і балетмайстар), якія выконвалі вартыя лепшай долі маладыя актрысы, а потым і ўсеагульнай ламбадай, якая выклікала рогат і рытмічныя воплескі адной паловы залы ў той час, калі другая апускала долу вочы...

Можа падацца, што зашмат увагі аддаём мы гэтаму сціламу спектаклю, які не зрабіў і не зробіць надвор'я. Аднак, думаецца, гэта не прахадны эпізод, а — трывожны сімптом. Сёння ў мастацтве ўладарна царуе прынцып камерцыйнасці, а калі так — дык і тэатр вокамгненна можа ператварыцца са «школы» і «кафедры» ва ўстанову «індустрыі адпачынку». Небяспека відавочная, таму і трывожна. І няхай «Швейцарыя...» не самы яркі прыклад аблегчанасці тэатральнага мастацтва, але ж— сімптом...

Наогул неяк боязна за лёс тэатра — такога магутнага і такога, як аказалася, кволага. Што з ім будзе? Куды рушыць? Ці набудзе свайго гледача, ці не страціць яго зусім? І што будзе з акцёрамі, якія ўвачавідкі губляюць свой статус «уладароў думак»?

Сумныя разважанні, сумныя высновы. Здаецца, няма падстаў для аптымізму. Але вось у Беларускім тэатральным вясною ўбачыла навучальную работу трэцяга курса акцёрскага факультэта (педагога Андрэя Андросіка). Спектакль паводле твораў Шэкспіра, ён не меў яшчэ на той час сталай назвы — «Наш Шэкспір», «Спроба Шэкспіра» ці яшчэ як... Прагны Андросік інсцэніраваў амаль усяго Шэкспіра, а яго густа населены, імклівы, напружаны спектакль, здаецца, мог быць «па зубах» толькі вопытным, трэніраваным прафесіяналам — ці апантаным студэнтам, якія, не шкадуючы сябе, з галавою кідаюцца ў свет шэкспіраўскіх страсцей. Не шкадаваў, відаць, іх і педагог, ды й сябе таксама, і мы ўбачылі (нават яшчэ не ў глядзельнай зале вучэбнага тэатра, а ў аўдыторыі, прыстасаванай пад залу) маладых, але ўжо шмат чаму навучаных людзей. Яны ўзбуджальныя, пластычныя, акрабатычныя, добра валодаюць сцэнічнай мовай — і беларускай, і рускай, тонка адчуваюць іронію, трапна вядуць дыялогі, умеюць «прышпорыць» фантазію (я маю на ўвазе ўсіх разам, як бы мовіць, групавы партрэт трэцяга курса, не называючы імёнаў, пакуль што, на шчасце, яны выглядаюць адзіным цэлым). А галоўнае — студэнты разумеюць і адчуваюць тое, што робяць. Гэта яшчэ «аднабаковы» Шэкспір, дзе перавага аддаецца дзеянню, імкліваму руху сюжэта, хоць і слова зусім не ў загоне, і думка ў вялікай пашане. Але ж трэба сачыць, як у гэтай ВУЧЭБНАЙ рабоце ведаюць цану і важкасць аднагоадзінага жэста, руху, паўзы, рытмікі, фразы, позірку, як умеюць у танцы перадаць насмешку ці пыхлівую пагарду... Так, пакуль што «аднабаковы» Шэкспір, але — ШЭКСПІР!..

Так, баюся, што захапленне мае дачаснае; так, не хочацца ў каторы ўжо раз расчароўвацца... Але ўсё-такі не трачу надзеі, што спраўдзяцца спадзяванні — нашы агульныя спадзяванні.

Лілія БРАНДАБОУСКАЯ.



«Паводле Шэкспіра». Момант рэпетыцыі курса А. АНДРОСІКА (БДТМІ). Арыэль у сцэне буры.

ДАЗВОЛЬЦЕ, ДЗЯДЗЕЧКА...

# «ПРЭЗІДЭНТ» ДАЕ ІНТЭРВ'Ю

Сярод кур'ёзных фактаў, на якія так багаты наш няпэўнапераходны час, гэты зойме ў гісторыі адмысловае месца.

Сяргей Шупа, знаўца замежных моў, перакладчык, рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура», дзе мы побач працуем, падаў мне нумар «Вячэрняга Мінска» за 27 кастрычніка і голасам, у якім чулася і здзіўленне, і ўсмешка, спытаў:

— Вы гэта чыталі? Не абы-хто, а сам прэзідэнт дае інтэрв'ю. Прачытайце, аж дух займае...

І сапраўды, адразу ж, з першых радкоў дыхнула грандыёзнасцю планаў, нейкім нябачным дасюль размахам задум і здзяйсненняў. Уражанне мацнела ад таго, што праект, роўны бадай што славутаму павароту сібірскіх рэк ці ракаўскаму парку цудаў, здзяйсняецца не на дзяржаўным, навat не на грамадскім, а на прыватным узроўні — узяў чалавек, задумаў, узмахнуў чароўнай палачкай і...

Паколькі працую ў выдавецтве, дык збольшага ведаю спецыфіку кнігавыдавецкай справы, тое, як сёння ўсё ўскладнілася: парушыліся дагаворныя абавязацельствы, стала дэфіцытнай папера, пабольшала залежнасць ад паліграфічнай базы. Узнікла пагроза над выданнем беларускамоўнай літаратуры, бо яна, нібы тая сірата, становіцца нікому непатрэбнай — куды выгадней, скажам, друкарам мець справу з так званай парнухай, іншымі відамі масавага «чтива», якое дае «жывую капейку». І раптам знаходзіцца чалавек, для якога ўсе названыя і не названыя праблемы нібы семкі — усё, аказваецца, можна лёгка вырашыць, падняўшы на ногі грамадскасць і зафрахтаваўшы замежныя фірмы. Чалавек стварае грандыёзны праект, называе яго, перайначыўшы словы Беларусь, «Руссю Белай» і ўжо ў якасці прэзідэнта выступае не толькі ад імя насельнікаў рэспублікі, але і ад усіх беларусаў свету...

Хто ж гэты ўсемагутны прэзідэнт? Гэта навуковец-гісторык і член Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Змітравіч Якутаў.

Пра фінансавае забеспячэнне незвычайных праектаў прамаўчым, бо гэта, магчыма, складае камерцыйную тайну прэзідэнта, якую ён не хоча абнародаваць. Але, калі шчыра, дык усім, хто цесна зросся з нацыянальнай культурай, неабыякава, хто, за чые грошы і з якімі мэтамі яе купляе. Памятаеце сказаныя з пачуццём высокай годнасці словы Максіма Багдановіча, што беларуская літаратура ні ў якім выпадку не згодзіцца чысціць боты капіталу?

Апрача ўсяго іншага, шаноўны прэзідэнт бярэцца забяспечваць беларускай літаратурай этнічныя беларускія землі — Бранскую, Смаленскую і Пскоўскую вобласці, якія, як вядома, цяпер знаходзяцца ў складзе РСФСР. Тут мяркуецца размясціць выдавецка-паліграфічныя магутнасці, якія будуць збываць гатовую прадукцыю — гэта значыць кнігі — мясцоваму насельніцтву. Задума выглядае знешне вельмі прывабнай, бо ці ж невядома, з якімі цяжкасцямі сутыкаецца кнігагандаль у Беларусі пры рэалізацыі беларускамоўнай літаратуры. Але, выяўляецца, праблема гэтая будзе лёгка вырашана: кожная з названых абласцей, паводле слоў прэзідэнта, гарантуе збыт беларускіх кніг па 2—3 тысячы тыражу, гэта значыць не менш, чым па абласцях БССР. У нас, як вядома, усё ж ацалелі, насуперак афіцыйнай палітыцы, беларускамоўныя асяродкі: у школах сяк-так, а ўсё ж вучылі і вучаць чытаць па-беларуску. Нічога падобнага не засталося на ўключаных у склад Расіі землях — пра беларускія школы, якія там існавалі ў 20-я гады, даўно ўжо ўсе пазабываліся, там цяпер няма ні зямляцтваў, ні хоць бы нядзельных беларускіх школ, як, напрыклад, у Прыбалтыцы, Маскве, Сібіры. Дык вось, хочацца спытаць у Якутава: абапіраючыся на каго вы хочаце там распаўсюджваць беларускую літаратуру? Няўжо, калі не знізу, дык зверху, на ўзроўні партыйнага і савецкага начальства там завёўся нейкі беларускі сепаратызм? Неверагодна! Якутаў узяў і назваў адвольныя лічбы, яны маглі быць большымі, маглі быць меншымі, бо залежалі, хутчэй за ўсё, ад настрою і фантазіі, без рэальнага разумення, як збіраецца тыраж пад кожную канкрэтную кнігу...

Яшчэ больш, чым унутрысаюзныя, на зыбучай няпэўнасці пабудаваны замежныя справы нашага прэзідэнта. Маю на ўвазе дачыненні з беларускай эміграцыяй. Што датычыць замежных фірмаў — пас, маўчу, хоць наўрад ці ўсё тут о'кэй, як гэта сцвярджае Якутаў. Хацелася б толькі пажадаць, каб яго абмінула доля «Атланта» і «Путніка». Але мяне больш непакоіць іншае: імкненне прэзідэнта ўцягваць (хай выбачае за слова) у свае афёры беларускую эміграцыю. Я асабіста не веру, што эміграцыя кідаецца ў абдымкі абы да каго. Пра сваё цеснае супрацоўніцтва Якутаў кажа як пра факт здзейснены і ў якасці прыкладу называе імя выдатнай беларускай паэткі на эміграцыі Наталлі Арсеневай, якая нібыта ўступіла яму правы на выданне сваіх твораў. Я не маю магчымасці перамовіцца з шаноўнай спадарыняй Арсеневай, але на сто працэнтаў перакананы, што словы прэзідэнта — чыстай вады лухта. Назвала ж імя Арсеневай чыста спекулятыўна, дзеля надання важкасці і пераканаўчасці сказанаму, а яшчэ з рэкламна-прапагандысцкімі мэтамі: давайце, сябры-пісьменнікі, перакідвайцеся сюды, вунь якія майстры слова лічаць за гонар мець справу са мной!..

У непраўдзівасці і спекулятыўнасці сваіх слоў упэўніў мяне сам Якутаў, таму і выказваюся, мабыць, рэзка, называю рэчы сваімі імёнамі. Маю на ўвазе перш за ўсё тое месца з інтэрв'ю, дзе гаворыцца пра гарачую падтрымку Якутавай дзейнасці пісьменніцкай грамадскасцю і... згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына».

Прачытаўшы такое, не ўтрываў, патэлефанаваў Якутаву на працу, але там сказалі, што ён ужо выйшаў на заслужаны адпачынак і шукаць яго трэба дома.

Называю сябе, кажу, што прачытаў інтэрв'ю, распытваю пра дзейнасць «Русі Белай», цікаўлюся наконт цеснага супрацоўніцтва з «Бацькаўшчынай».

— О, конечно, конечно! — з імпэтам падхоплівае «прэзідэнт». — Налажено самое тесное сотрудничество. Я ведь вхожу в руководящие органы объединения...

— Прабачце, — сумеўся я, — у якія кіраўнічыя органы? Мяне, — тлумачу, — завуць Яўген Лецка, я з'яўляюся старшынёй рады «Бацькаўшчыны», а на чале ўсяго згуртавання стаіць прэзідэнт, аднагалосна абраны ўстаноўчай канферэнцыяй, Васіль Быкаў...

— О, да, да! Мы ведь с Василём в хороших отношениях. А с тобой, понимаешь, как-то не получилось встретиться, поговорить. Да это дело поправимое — будет полезно и для «Бацькаўшчыны», и для тебя. Материально и морально поддержим...

— Ага, сустрэнемся, пагаворым, — неяк няўцямна адказваю і зняможана кладу слухаўку.

Калі-небудзь, бадай, і сустрэнемся, і пагаворым. Але вы ўжо, таварыш «прэзідэнт», прабачце — наўрад ці атрымаецца ў вас цеснае супрацоўніцтва са згуртаваннем «Бацькаўшчына».

**Яўген ЛЕЦКА,**
**старшыня рады згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».**

## *Беларускі шлях*

Цяпер, калі, бадай, кожны з нас думае пра лёс Беларусі, беларускую дзяржаўнасць, ёсць патрэба звярнуцца да вытокаў самой ідэі беларускай дзяржаўнасці. Дзеля гэтага мы распачынаем публікацыю матэрыялаў пад рубрыкай «Беларускі шлях». Тут будуць змешчаны матэрыялы беларускіх грамадскіх і палітычных арганізацый, якія дагэтуль не публікаваліся. Спадзяёмся, што іх з зацікаўленасцю і карысцю прачытаюць сённяшнія лімаўскія чытачы.

Пасля далучэння Вялікага княства Літоўскага і часткі Польшчы да Расіі ў паўстаннях 1794, 1830—1831, 1863—1864 гг. барацьба вялася за аднаўленне Рэчы Паспалітай. Пры гэтым відныя беларуска-літоўскія дзеячы (Якуб Ясінскі, Кастусь Каліноўскі ды інш.) заўсёды мелі на мэце аднаўленне аўтаноміі Вялікага княства Літоўскага і яго федэратыўныя сувязі з Польшчай. Але ў 80-я гг. XIX ст. беларускія народнікі ў сваім часопісе «Гомон» заявілі, што яны змагаюцца за асобныя інтарэсы беларускага народа, за аўтаномію Беларусі ў складзе новай, дэмакратычнай Расіі. Пра аўтаномію Беларусі ў складзе дэмакратычнай і федэратыўнай Расіі адразу ж загаварыла і Беларуская Сацыялістычная Грамада (БСГ) — нацыянальная партыя, што ўзнікла ў 1903 г.

У 1914 г. пачалася першая сусветная вайна, а ў 1915 г. немцы акупіравалі заходнюю частку Беларусі з Вільняю. Упершыню беларусы атрымалі магчымасць адчыніць свае школы, настаўніцкія курсы, іншыя асветніцкія і культурныя ўстановы, выпускаць беларускія газеты. Усяго гэтага не было на ўсходзе Беларусі, які заставаўся пад уладай царызму. Таму няхай вас не здзіўляе арыентацыя беларускіх дзеячаў на Германію, на сярэднееўрапейскія краіны, што былі ў саюзе з Нямеччынай. Зрэшты, паражэння царызму ў гэтай вайне жадалі і расійскія бальшавікі. Для нас жа больш важна адзначыць, што, арыентуючыся на Захад, беларускія і літоўскія дзеячы хацелі аднавіць незалежнае Вялікае княства Літоўскае, а праўдзівей незалежную дзяржаву на тэрыторыі былога Княства. Беларускія дзеячы адмовіліся ад думкі пра федэрацыю з Расіяй (пра Польшчу я ўжо казаў). У той жа час нарадзілася ідэя саюзу (канфедэрацыі) незалежных Беларусі, Літвы, Украіны і Латвіі, «Злучаных Штатаў» ад Балтыйскага да Чорнага мора. Яе актыўным прапагандыстам быў адзін з заснавальнікаў БСГ, а ў час акупацыі старшыня Беларускага Народнага Камітэта ў Вільні, лідэр Беларускай Сацыял - Дэмакратычнай Работніцкай Групы Антон Луцкевіч. (Яго рэферат для беларускай дэлегацыі на Лазанскай канферэнцыі народаў Расіі надрукавана сёлета ў № 2 газеты «Свабода»).

Прашу паважаных гісторыкаў звярнуць увагу на дзве акалічнасці: і ў апублікаваных тут тэкстах, і ў архіўных матэрыялах фігуруе Беларускі Народны Камітэт у Вільні, а не Беларускі Нацыянальны Камітэт, як гэта можна прачытаць у некаторых працах. Другое: побач з Віленскім Камітэтам Беларускай Сацыялістычнай Грамады працавала Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Работніцкая Група. Яе, як мы ведаем, узначальваў А. Луцкевіч. Значыць, ён выйшаў з Грамады і стаў на цвёрдыя сацыял-дэмакратычныя пазіцыі яшчэ да расколу БСГ у 1918 г. Ці не быў гэта першы раскол у шэрагах партыі?

Анатоль СІДАРЭВІЧ.

### УНІВЭРСАЛ
### Канфэдэрацыі Вялікага Князьства Літоўскага

Лета 1915 мес. Грудня[1] 19 дня члены Літоўскіх, Беларускіх, Польскіх і Жыдоўскіх арганізацый прыступілі да КАНФЭДЭРАЦЫІ ВЯЛІКАГА КНЯЗЬСТВА ЛІТОЎСКАГА, дабіваючыся супольнымі сіламі, абы Літоўскія і Беларускія землі, каторыя здаўна прыналежалі да ВЯЛІКАГА КНЯЗЬСТВА ЛІТОЎСКАГА, а цяпер апанаваны Нямецкімі войскі, станавілі пры новых варунках гістарычных нераздзельнае цела на фундамэнце НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ЛІТВЫ І БЕЛАРУСІ, ЯК СУЦЭЛЬНАЙ ДЗЯРЖАВЫ, ЗАСЬЦЕРАГАЮЧЫ ЎСІМ НАЦЫЯМ У ЯЕ МЕЖАХ УСЕ ПРАВЫ.

Дзеля гэтага канфэдэраты звяртаюцца да ўсіх нацый, да ўсіх станаў, да ўсіх існуючых арганізацый і да ўсіх грамадзян Краю, клічучы, абы ўважаючы на важнасць вялікага гістарычнага мамэнту, забыўшыся крыўд узаемных, свар і недавер'я, маючы на мэце адно карысць супольнае Бацькаўшчыны, прылучыліся да КАНФЭДЭРАЦЫІ ВЯЛІКАГА КНЯЗЬСТВА ЛІТОЎСКАГА.

РАДА ТЫМЧАСОВАЯ
Канфэдэрацыі Вялікага Князьства Літоўскага.

●

### ГРАМАДЗЯНЕ!

Абвешчаная 19 грудня 1916 году Тымчасовай Радай Канфэдэрацыя Вялікага Князьства Літоўскага мае на мэце, як тое ў Унівэрсале яе адзначана, дайсьці вызваленьня Літвы і Беларусі, як дзяржаўнай адзінкі.

Кіруючыся да гэтай мэты, Канфэдэрацыя апіраецца на гэтакіх асновах:

Перш за ўсё Канфэдэрацыя лічыць, што ўсе надзеі на Расею — ня толькі пустыя, але і шкодныя. Больш чым сталетняе супольнае жыццё нашае з Расеяй найлепей паказала, што гэтае гасударства хоча з намі зрабіць. Праз увесь час супольнага з намі жыцця яно плянава і сістэматычна кіравалася да таго, каб сцерці ўсе адзнакі нашай самачыннасьці. І гісторыя астатніх ста дваццаці лет запоўнена ўся безупынным сьмяротным змаганьнем нашым за свой быт з прагавітай расейскай дзяржаўнасьцю.

На дарозе да вызваленьня нашага мы спатыкаем ворагаў ня толькі ў чыноўніцкай расейскай дзяржаўнасьці, але і ў большай часьці расейскага грамадзянства, каторае праз свае партыі, ня лічачы некаторых невялікіх груп, заўсёды выступала проці нашага руху да волі. З гэтай прычыны мы не сумляваемся і аб расейскім лібэралізьме, каторы кіруецца да таго, каб у свае рукі забраць уласьць пасьля царскіх чыноўнікаў.

Да якой ступені цэнтралістычнага асьляпленьня дайшла кіруючая часьць расейскага грамадзянства, могуць сьведчыць хоць бы галасы прэсы расейскай, каторая нават цяпер, калі нас ужо асвабадзілі ад ярма царскай апекі, не забываецца пры кожным здарэньні адзначываць, што бытцым то Край наш ёсць і далей павінен аставацца расейскім — «истинно русским на веки».

Сеці інтрыг, расстаўляных за граніцай і ў нашым Краю ў астатнія часы досі ахвочай і спрытнай рукою наймітаў расейскага царату, не павінны нас ашукаць ці ўсыпіць нашу чуткасьць.

Нашы надзеі на спаўненьне жаданьня волі Краю нашага кіруюцца цяпер у другую старану: да групіроўкі гасударств срэдне-эўрапэйскіх. Мы верым, што пасьля пабеды срэдне-эўрапэйскіх гасударств быўшыя заходнія правінцыі Расеі, а перш за ўсё землі польскія, літоўска-беларускія і надбальтыцкія павінны будуць адпасьць ад Расеі і стварыць гасударственыя адзінкі ў такой або сякой камбінацыі з срэдне-эўрапэйскімі гасударствамі, а пры гэтым былі бы прыняты пад развагу эманцыпацыйныя дамаганьня гэтых зямель і запэўнены варункі самачыннага развіцьця іх сацыяльна-культурнага і палітычнага жыцьця.

Гэткая мажлівасьць карысна ня толькі для гэтых краёў, але карысна і для срэдне-эўрапэйскіх гасударств. Бясспорна, гэтым апошнім важна ня толькі тое, каб Расея была аслаблена, але і тое, каб ад яе адзяліцца мурам, каторы бараніў бы іх ад націску з усходу. Само самой разумеецца, што хоць болей-меней дальнавідная палітыка, якой можам спадзявацца, ад срэдне-эўрапэйскіх гасударств, будзе вымагаць, каб Краі, каторыя будуць служыць за такі мур, ня толькі цягнуліся да Срэдняй Эўропы з прычын зверхных і мінаючых, але і былі зацікаўлены такой лучнасьцю з прычын унутраных, пастаянных.

Ня думаем, каб цяпер ужо была пара прарочыць аб канкрэтных формах будучага ўкладу адносін срэдне-эўрапэйскіх гасударств, — пакуль акружжа ваюючых не сказала свайго астатняга станоўчага слова. Усё ж такі нам здаецца, што ўжо пара, каб заінтэрэсованыя староны, а ў гэтым шчоце і наш Край, выказалі публічна сваю волю і свае справядлівыя дамаганьня.

У мысьль гэтага Канфэдэрацыя Вялікага Князьства Літоўскага жадаець:

1. абы землі літоўска-беларускія станавілі пры новым укладзе незалежную гасударственую адзінку з сэймам у Вільні, выбіраным на аснове агульных, роўных, простых і тайных выбараў, з забесьпячэньнем поўных правоў усім нацыям, каторыя жывуць на названых землях.

2. абы ў межах названых зямель[2] былі прынамсі землі, занятыя цяпер нямецкімі войскі, значыцца: Ковенская і Віленская губэрніі, беларуская і літоўская часьці Гродзенскай і Сувальскай губэрній, літоўскія часьці Курляндзкай губэрніі і часьці губэрніі Мінскай, каторая звязана з Віленскім цэнтрам — і абы ўсе гэтыя землі станавілі адно непадзельнае цэлае;

3. абы форма ўнутранага ладу і аснаўная канстытуцыя будучай вольнай літоўска-беларускай гасударственнай адзінкі не была накінута нам з верху, але была ўстаноўлена і зацьвержона ўстаноўчым сэймам у Вільні, выбраным агульнай, роўнай, простай і закрытай падачай галасоў.

Гэтыя аснаўныя нашы жаданьня, каторыя наш Край праз сьвядомыя грамадзкія арганізацыі выказываў у такой або сякой форме, у залежнасьці ад варункаў мамэнту, адпавядаюць усім справядлівым вымаганьням як шырэйшых кругоў грамадзянства нашага, так і асобных народаў нашага Краю.

Грамадзяне!

Мамэнт, каторы пастановіць аб долі нашага Краю, нашай супольнай Айчыны, набліжаецца шпаркімі крокамі. Будучына і дабрабыт Краю будзе ў значнай меры залежыць ад таго, якую пазыцыю мы займем. Будзьма ж растаропнымі і дальнавіднымі, не паддаваймася толькі ўчуцьцю, каторае нас часта ашуківае, але разважайма аб долі нашай, долі цэлых будучых пакаленьняў халодным разумам, сягаючы далёка перад сабою.

Яднаймася навокал супольнага клічу, бо толькі ў еднасьці сіла. Кіньма сваркі і звадкі, ад каторых церпіць увесь Край. Падумайма разам ды шчыра аб долі гэтага Краю, бо ж усе мы, апрача жмені прыблуд, сыны нашай зямлі — нашай Літвы і Беларусі,

Не чакайма на тое толькі, што нехта для нас зробіць, не ашуквайма сябе, а возьмем сваю долю ў свае рукі: трывалым будзе толькі тое, што мы сваімі супольнымі сіламі заваюем, здабудзем і ўтрымаем.

Стойма, грамадзяне, моцна, цьвёрда і ў згодзе, бяз рожніцы станаў, нацый і веры, пры штандары нашай вольнай бацькоўшчызны — Літвы і Беларусі!

Люты 1916 г.

РАДА
Канфэдэрацыі Вялікага Князьства Літоўскага.

●

### УНІВЭРСАЛ
### Канфэрэнцыі Беларускага Народнага Камітэту, Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Работніцкай Групы і Віленскага Камітэту Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

### ГРАМАДЗЯНЕ!

На ўсім сьвеце прабіла гадзіна вызваленьня народаў. Прабіла яна і для народу Беларускага.

Перад намі — велізарная задача: узяць тую волю, якую суляць усім уцісканым народам ваюючыя дзяржавы, і збудаваць моцныя-вечныя асновы для вольнага жыцьця.

Магчымасьць развіваць сваю нацыянальную культуру і родную мову, ладзіць беларускую навуку ў школах — ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых, забяспечыць беларускай мове належнае мейсца ў урадовых установах, судзе, касьцёле і цэркві — гэта толькі часьць таго, чаго мы павінны дайсьці. Каб мець магчымасць усестароннага і матэрыяльнага развіцьця, наш народ павінен мець права самому ўпраўляцца на сваёй зямлі ў еднасьці і згодзе з грамадзянамі ўсіх нацыянальнасьцей Краю

НА АСНОВАХ ДЭМАКРАТЫЗМУ
з забеспячэньнем

СВАБОДНАГА ЭКАНАМІЧНА-ГАСПАДАРЧАГА РАЗВІЦЬЦЯ,
глаўнай асновы дабрабыту многамільёнfamных рабочых мас.

Беларусь ад вякоў звязана ў суцэльны эканамічна-гаспадарчы арганізм з Літвой. Іх звязывае супольная арганізацыя і супольныя інтарэсы прамышленасьці і таргоўлі, супольныя тарговыя дарогі — рэкі і сыстэма чыгунак, каторыя на поўначы праз Курляндзію даюць вольны выхад да Балтыцкага мора, а на поўдні праз Украіну — да Чорнага мора, адкрываючы дарогу на ўвесь сьвет. Разарваць гэту гаспадарчую еднасьць — значыць разбіць самыя асновы эканамічнага жыцьця Беларусі і Літвы, значыць засудзіць нашу Бацькаўшчыну на вечную эканамічную залежнасьць ад чужынцаў. З гэтай прычыны беларускія грамадскія арганізацыі на сваей Канфэрэнцыі ў Вільні пастанавілі:

у гэты мамэнт, калі важыцца пытанне аб нашай будучыні, выставіць жаданьне

незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі і Літвы, абнімаючы ў новай беларуска-літоўскай дзяржаве ўсе беларускія і ўсе літоўскія землі з абодвых бакоў ваеннага фронту, у найцяснейшай еднасьці — згодна з пастановай рады работнікаў і салдатаў у Рызе — з Курляндзіяй, а также эвэнтуальна з Украінай.

Каб правясці гэта ў жыцьцё, мы трэбуем сазыву

УСТАНОЎЧАГА СЭЙМУ БЕЛАРУСІ І ЛІТВЫ Ў ВІЛЬНІ,

на каторым дэпутаты ўсіх нацыянальнасьцей краю, выбраныя на асновах агульнай, роўнай, тайнай і беспасрэднай падачы галасоў, выявяць волю нашай Зямлі.

Гасударственны лад у будучай дэмакратычнай Беларуска-Літоўскай дзяржаве павінен быць збудаваны на гэткіх асновах:

1. аддача ўсей уласьці ў рукі народу;

2. унутранае разгранічэньне аўтаномных Беларускай і Літоўскай зямель паводлуг матчынай мовы жыхароў;

3. роўныя правы для ўсіх нацыянальнасьцей краю;

4. прызнанне ўрадавых правоў за ўсімі мяйсцовымі мовамі, забеспячэньне школьнай навукі ў матчынай мове.

На гэткіх асновах хочама мы будаваць будучыну нашага краю. На гэткім жа грунце стаіць і Беларускі Нацыянальны Камітэт у межах Расеі[3], каторы ў згодзе з часьцю літвінаў, у згодзе з польскім і жыдоўскім грамадзянствам з таго боку ваеннага фронту выставіў жаданьне непадзельнасьці вольнай Беларусі і Літвы.

Канфэрэнцыя кліча ўсё грамадзянства нашага краю бяз розьніцы нацыянальнасьці і веры, а ў першы чарод усіх беларусаў злучыць свае сілы і згодна падаць свой голас за тыя палітычныя ідэалы, якія выставіла арганізаванае беларускае грамадзянства з абодвых бакоў фронту, выставіла згодна ЎСЯ БЕЛАРУСЬ.

Няхай жыве незалежная і непадзельная Беларусь і Літва!

Няхай жыве Установчы Сэйм у Вільні!

Няхай жыве Воля, Роўнасць і Брацтва ўсіх народаў!

ВІЛЬНЯ, У ВЕРАСЬНІ 1917 г.

---

Увага: Канфэрэнцыя лічыць сваей павіннасьцю заявіць, што прадстаўленыя на ёй беларускія грамадскія арганізацыі, салідарна з Беларускім Нацыянальным Камітэтам у Расеі стоячы на грунце непадзельнасці гістарычнай Беларусі і Літвы, не маюць нічога супольнага з выдаванымі ад нейкага часу ў Вільні «лістоўкамі» і выстаўленай у іх думкай аб незалежнасьці Беларусі, адарванай ад Літвы, у еднасьці з сучаснай буржуазнай Польшчай: «лістоўкі» гэтыя становяць плод працы аднэй асобы, ідэі каторай навеяны са стараны — чужымі нашаму народу людзьмі[4].

---

1 Грудзень — снежань. Так гэты месяц называюць украінцы і паляні.

2 Маецца на ўвазе адроджаная дзяржава на тэрыторыі былога Вялікага княства Літоўскага.

3 Беларускі Нацыянальны Камітэт быў створаны ў Мінску ў сакавіку 1917 года. Яго матэрыялы мы апублікуем.

4 Чытачоў з гэтымі лістоўкамі мы пазнаёмім, а тут адзначым, што пэўныя ідэі «Сувязі Незалежнасці і Непадзельнасці Беларусі», выказаныя ў лістоўках, запазычаны аўтарамі гэтага універсалу.

Падрыхтоўка тэксту і каментарыі
Анатоля СІДАРЭВІЧА.

да шчасця
прага.
І распінаюць
факты
факт,
Ваюе
з сытасцю
галеча.
Выратавальнік сам
і кат
Падсудны род наш чалавечы.
А што як выбух скалане
Без папярэдняй кананады
Зямлю...
І ўсе на той вайне —
Засвечаныя кінакадры...

●

Якая дзівосная сіла
У гэтай жанчыне жыла,
Што некага вечна любіла,
А некага вечна кляла.

Яна не прымала сярэдзін
І сэрца яе на зямлі
Мог вораг адно развярэдзіць,
Каханы хіба акрыліць.

Знайшла, як усе, на пагосце
Спакой для сябе, цішыню...
І вораг прыходзіць у госці
І той, што бліжэй за радню.

Прыводзіць жа іх да магілы
Яна, што так дзіўна жыла,
Што некага вечна любіла,
А некага вечна кляла.

## На роздуме?

Адштурхнуўшы шчасліва
і бога і д'ябла,
Ты нічога ўзамен
сабе не ўзяла,
Толькі яблык разладу,
няспелы яблык
Для пустога стала.
Ты крычала ад голаду
ўсюды агіткі,
Абяцала здзяйсненне
вялікіх спраў,
А яны памясціліся
ў тонкім сшытку,
У тым самым,
што д'ябал у бога ўкраў...

## Лёсу галубка

Позна
рабіць
зарубку
Мне на лёсе сваім,
Дзікага
лёсу
галубка
Пырхнула,
нібы дым,
Крыллем пралапатала,
Мільганула крыжом —
Божа,
як гэтага мала
І як многа ўжо...

## Кінакадры

Расхінула
машына
барты —
І пасыпаліся не з дрэва
Наліўныя
жывыя
плады
Для спакусы Адама з Евай.
Ах, як яблыкі ўніз ляцяць!
А за імі
тут жа
пагоня —
Дзеці яблыкі хрубасцяць,
Згаладалыя быццам коні.
Ды астатнія
ўніз
імчаць,
Па асфальце
імкліва
коцяцца —
Круглабока
мільгае
ў вачах
Наліўная
духмяная
конніца.
Што за фільм? Не ўспомню ніяк...
І якое ў ім думкі зерне...
Колькі раз ён мяне,
аднак,
Да тых яблыкаў
яшчэ верне.
Можа,
справа ў машыны бартах,
Што расхрысталіся крылата,
Мо ў пладах,
наліўных пладах,
Што рассыпаліся,
як салдаты...

расстраляць!.. — і, звяртаючыся да начальніка лагернага пункта, загадаў: — У ізалятар яго, а потым на лесапавал!

У штрафны ізалятар-кандзей начальнік лагернага пункта Барыса не пасадзіў, а вось на лесапавал адправіў.

Аднойчы мы з ім спілавалі тоўстую, што не абхапіць рукамі, сасну. Трэба было яшчэ распілаваць яе на метровай даўжыні чурбакі і пакалоць на дровы. Сталі мы на каленькі, і пілуем. Раптам чуем: «Сцеражыся!» Памкнуліся ўскочыць на ногі, але позна — вялізнае дрэва падала проста на нас. На шчасце, лістаўніца нас не зачапіла. Ляжым, не ўстаём.

Падбег дзесятнік.

— Жывыя. Ну, дзякаваць Богу!

— Жывём і будзем жыць! — адказаў з усмешкай Барыс, устаючы.

Потым Мікуліча перавялі на другі лагпункт. Я ж некаторы час быў брыгадзірам лесанарыхтоўчай брыгады, потым стаў дзесятнікам, а пазней майстрам лесанарыхтовак (вольнанаёмных майстроў было мала). Тым часам пачалася вайна. 9 снежня 1942 года пасля адбыцця незаслужанага пакарання мяне вызвалілі з месц зняволення і прымусілі па дырэктыве № 185 НКУС СССР працаваць «па вольным найме».

Барыс Мікуліч быў вызвалены толькі ў жніўні 1946. Неўзабаве нам давялося сустрэцца. У «Повести для себя» ён напіша пра нашу сустрэчу: «Утром ушел к рейсовому и, ожидая, читал Фраги. Есть любопытные стихи. Ездил на 1-ый. Увидел меня Е. Г. (признаться — мне не хотелось к нему заходить), потащил к себе — у него «полная чаша», жена, очевидно, работящая и хорошая хозяйка, сыновья... ковры, свиньи, — ну где ему срываться отсюда! И все эти отговорки о «снятии судимости» — больше для отвода глаз. Много вспоминали, говорили о Минске, об общих друзьях. И он отговаривает ехать в Минск и вообще в Белоруссию».

Я сапраўды адгаворваў Барыса Міхайлавіча ехаць у Мінск і наогул у Беларусь, бо ведаў, што тых, хто прыехаў са зняволення, органы зноў арыштавалі і выслалі ў Сібір. У 1949 годзе яго выслалі ў Тасееўскі раён Краснаярскага краю.

Вялікія пакуты і здзекі давялося перанесці Барысу Мікулічу за 18 год падняволынага жыцця. Але ён не зняверыўся, не сагнуўся, заўсёды заставаўся патрыётам сацыялістычнай радзімы, яе сумленным будаўніком. Шкада, што ён не дачакаўся святых вятроў перабудовы. Ён быў бы, я ўпэўнены, у шэрагах змагароў за перамогу дэмакратычных пераўтварэнняў, што адбываюцца ў нашым грамадстве...

**Яфім ГАВАРУШКА,**
ветэран працы.

## Віншуем!



**Сёння спаўняецца 80 гадоў празаіку Аляксандру МІРОНАВУ. З гэтай нагоды Рада Саюза пісьменнікаў Беларусі накіравала юбіляру цёплыя віншаванні, да якіх далучаюцца і супрацоўнікі «ЛіМа».**

# САЛЮТ КАПІТАНУ!

Адзін з першых успамінаў майго маленства — канечны трамвайны прыпынак на паўночна-ўсходняй ускраіне Мінска, прыпынак, які называўся «Выстаўка» (у гонар першай сельскагаспадарчай выстаўкі БССР). Побач з прыпынкам, праз дарогу, шумеў сасновы бор, куды мама прыводзіла мяне «падыхаць лесам». Назва «Выстаўка» праіснавала ледзь не да пачатку пяцідзесятых, а вось сасновы бор яшчэ ў той час — у трыццатыя гады—стаў называцца паркам імя Чэлюскінцаў. І, значыць, увекавечыў і імя пісьменніка Аляксандра Міронава. Таму што Аляксандр Міронаў быў чэлюскінцам, адным з тых, кім захапляліся ў тыя часы хлапчукі ўсёй краіны.

Чатырохгадовы хлопчык, які хадзіў з мамай па алеях парку Чэлюскінцаў, — ці мог ведаць, што праз дзесяцігоддзі чэлюскінец Міронаў, чалавек з выразным аблічам сапраўднага «марскога ваўка» — загрубелы ад вятрыскаў твар, люлька ў роце, зоркі і разам з тым дзёрзка вясёлы погляд—паўстане перад ім як першы для яго жывы пісьменнік, рэдактар альманаха «Советская Отчизна» (цяпер—часопіс «Нёман»), пісьменнік, які возьме з рук збянтэжанага студэнта сшытачак вершаў, перагартае яго, даючы бязлітасную ацэнку большасці рыфмаваных практыкаванняў, а потым вырве некалькі старонак і скажа: «Гэта мы надрукуем!»

Вядома, першым жывым пісьменнікам мог стаць для мяне і хто-небудзь іншы. У тым, што я, пачынаючы паэт, сустрэўся менавіта з Аляксандрам Міронавым, што менавіта ён надрукаваў мае першыя вершы, ёсць элемент выпадковасці. Ёсць элемент выпадковасці і ў тым, што мне давялося пачынаць сваю літаратурную біяграфію ў той жа газеце, у якой Аляксандр Міронаў у гады свайго юнацтва быў рэпарцёрам — у «Звяздзе». І ўсё ж ёсць тут і заканамернасць: не маглі літаратары майго пакалення не састыкавацца з пакаленнем Міронава. Іх вопыт зрабіўся і нашым вопытам, нават іх блуканні і трагічныя памылкі пайшлі нам на карысць, бо і яны—вопыт. Можа, перш за ўсё—яны...

Гэты вопыт—разам з народжанымі часам ілюзіямі, разам з рамантызмам сталінскіх пяцігодак, ад якога гэтак цяжка было пазбавіцца, — застаўся ў прозе Аляксандра Міронава, у шматлікіх яго аповесцях і апавяданнях аб моры, аб людзях мора, у прыватнасці, у «Лёдавай Адысеі», у такіх рэчах, як «Далёка на Поўначы» і «Праз тысячу смерцяў». Не толькі ілюзіі змест гэтай прозы, але і праўда жыцця, а т м а с ф е р а  ч а с у, сапраўдная героіка Вялікай Айчыннай.

Ёсць такая кніга—л о ц ы я. Гэта кіраўніцтва для плавання, якое змяшчае апісанне мораў, марскіх узбярэжжаў, меляў, небяспечных праліваў і гэтак далей. Без лоцыі ні адзін карабель не выходзіць у мора. І калі па традыцыі параўнаць з морам жыццё, дык можна сказаць, што творчасць Аляксандра Міронава — адзін з запісаў у лоцыі, і гэта добрасумленны запіс, шчыры, ад сэрца.

Сёння Аляксандру Міронаву спаўняецца восемдзесят год. А я па-ранейшаму бачу яго маладым, з люлькай, у капітанскім кіцелі, бачу яго зоркі і разам з тым дзёрзка вясёлы погляд. І, як матрос, як адзін з дзесяткаў, калі не сотняў тых, каго ён блаславіў на плаванне ў літаратуры, на свой запіс у лоцыі, я аддаю яму чэсць:

— Салют, капітан! Шчасця Вам і здароўя!

**Валянцін ТАРАС.**

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### Пра што дамовяцца дэпутаты?

**Як паінфармавала рэдакцыю парламенцкая апазіцыя БНФ, 23—24 лістапада ў Мінску адбудуцца перагаворы дэпутатаў Балтыйска-Чарнаморскіх рэспублік. У перагаворах удзельнічаюць дэпутаты апазіцыі Вярхоўных Саветаў Украіны і Беларусі і дэпутаты ад дэмакратычнай большасці Вярхоўных Саветаў Эстоніі, Латвіі і Літвы. Па дамоўленасці паміж дэлегацыямі вырашана, што пад час перагавораў журналісты не прысутнічаюць. Разам з тым, будуць праведзены дзве прэс-канферэнцыі— па агульнапалітычных пытаннях і выніковая, пасля завяршэння перагавораў.**

**Больш падрабязна пра гэтую неардынарную падзею «ЛіМ» паведаміць у наступным нумары.**

### За творчыя дасягненні

**Прэзідыум праўлення МТ БССР надаў званне «Стыпендыят Музычнага таварыства БССР» на 1990-91 навучальны год па ўстановах культуры і мастацтва рэспублікі. За высокія творчыя дасягненні, добрую і выдатную паспяховасць, актыўны ўдзел у музычна-асветніцкай рабоце, прапагандзе беларускай музычнай культуры гэтага звання ўдастоены студэнтка БДК Ларыса Рыдлеўская, студэнтка Мінскага інстытута культуры Алена Якавенка, вучаніца Музычнага ліцэя пры БДК Кацярына Анохіна, навучэнец Маладзечанскага музычнага вучылішча Сяргей Дрозд, навучэнец Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча Дзмітрый Некрашэвіч, навучэнка Брэсцкага музвучылішча Аксана Альшэўская.**

**Н. В.**

### Беларускае таварыства ў Карэліі

**У Петразаводску адбылося першае пасяджэнне арганізацыйнага камітэта па стварэнні ў Карэліі Беларускага культурнага таварыства. На ім гаварылася, што нельга адрадзіць культуру Карэліі без адраджэння культур народаў, якія яе насяляюць, у тым ліку і беларусаў. Іх жа тут 57 тысяч. Абмеркаваны статут згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».**

**Старшынёй аргкамітэта выбраны беларускі спявак Лявон Габрусёнак.**

### «Харошкі» ў Італіі

**З Рыма ад карэспандэнта ТАСС С. Старцава прыйшло паведамленне пра паспяховыя гастролі беларускага фальклорна-харэаграфічнага ансамбля «Харошкі» ў гарадах і камунах паўночнай Італіі. Гэты калектыў знаходзіцца тут па запрашэнні аддзялення таварыства «Італія—СССР» горада Пардзноне. Самабытныя канцэртныя праграмы, якія выконваюцца ансамблем на высокім прафесійным узроўні, па заслугах ацанілі гледачы Удыне, Трыеста, Кардзонцы, Фларэнцыі.**

**Усе зборы ад канцэртаў і ахвяраванні пойдуць у фонд аказання медыцынскай і аздараўленчай дапамогі беларускім дзецям, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. Для гэтага ў Італіі адкрыты спецыяльны рахунак.**

### Падручнікі на роднай мове

**Законам аб мовах у Беларускай ССР, як вядома, прадугледжаны выпуск на беларускай мове падручнікаў па спецыяльных дысцыплінах для вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Адным з першых да гэтай важнай справы падключылася выдавецтва «Вышэйшая школа». Нядаўна ў перакладзе на беларускую мову тут пабачыў свет дапаможнік Л. Стойлавай і А. Пышкавай, адрасаваны студэнтам педагагічных вучылішчаў,— «Асновы пачатковага курса матэматыкі».**

**Як сказала нашаму карэспандэнту галоўны рэдактар «Вышэйшай школы» Т. Майбарада, выдавецтва прадоўжыць выпуск падручнікаў на беларускай мове, а таксама навукова-тэрміналагічных слоўнікаў.**

**НАШ КАР.**

# ПОМНІК СЛАВЫ ПАЎСТАНЦКАЙ

У пачатку чэрвеня 1863 года конніца паўстанцаў на світанку ўварвалася ў мястэчка Ружаны. Паўстанцы раззброілі тут каманду ўнутранай аховы, узялі 22 ружжы, патроны, амуніцыю, порах і грошы, знішчылі паперы і архіў.

Актыўнасць паўстанцаў у гэтых краях вызначалася тым, што тут быў вялікі лясны масіў, які і цяпер называецца Ружанскай пушчай. Лясы і пушчы ў той час былі суцэльнымі, густымі і балоцістымі, з мноствам рэчак і невялікіх азёр. Адсюль паўстанцы нападалі на гарнізоны гарадоў і мястэчак, на невялікія атрады царскіх карнікаў. Гэтыя абставіны змусілі царскія ўлады раздзяліць пушчу шырокай прасекай на дзве часткі. На прасецы стаялі пасты пяхоты, пастаянна патрулявалі раз'езды казакаў. Гэтая прасека і цяпер называецца ў народзе Паляцкай трыбай.

Вясной 1863 года ў пушчы, недалёка ад вёскі Ласасіна, адбыўся жорсткі бой паўстанцаў з царскімі войскамі. Бой доўжыўся некалькі гадзін з пераменным поспехам. На месцы бою былі пахаваны загінуўшыя паўстанцы. Гэты невялікі ўзгорак захаваўся, і жыхары вёскі Ласасіны называлі яго Мяцежніцкай магілай. Больш за паўстагоддзе назад на гэтай магіле быў пастаўлены сціплы помнік. Потым помнік хтосьці разбурыў, усё вакол зарасло верасам і высокай лясной травой. Аб помніку зналі нямногія. Адшукаць пахаванне паўстанцаў у лесе аказалася нялёгка. Адзін стары жыхар вёскі Ласасіны абяцаў мне паказаць у лесе магілу мяцежнікаў, але пакуль сабраліся — чалавек памёр. Паказаць магілу паўстанцаў падрадзіўся былы ляснік, які жыў на ўзлеску. Але шукалі мы доўга і не знайшлі. Урэшце паказаў мне брацкую магілу паўстанцаў жыхар вёскі Ласасіны Якаў Фаміч Заяц, але таксама аж пасля дзвюх няўдалых спроб. Гэты чалавек шаноўнага ўзросту ў свой час прымаў удзел у пабудове помніка паўстанцам. Памылка была ў тым, што мы шукалі магілу ў лесе, а яна аказалася на ўзлеску, за 3 — 4 кіламетры на поўдзень ад Ласасіны, ва ўрочышчы Гантарня.

Магіла паўстанцаў — гэта вялікі і даволі мураваны прамавугольнік памерам 4,4×2,4 м. Пастамент паваліўся на бок. Абеліск з чорнага граніту ляжыць за межамі прамавугольніка. Вышыня абеліска 1,45 метра. На ім уверсе выбіты крыж, а пад ім надпіс па-польску: «Праху 40 паўстанцаў, польскіх, паўшых у 1863 г. у бітвах з захопнікамі — жыхары павета».

Якаў Фаміч сказаў, што помнік быў пабудаваны ў 1933 годзе, у 70-ю гадавіну паўстання, калісьці ён быў абгароджан драўляным плотам.

...У маўчанні схіляем галовы над магілай паўстанцаў-герояў. Яркае і цёплае сонца залівае лясную высечку. Ціхі ветрык перабірае былінкі сухой травы, шуміць у галлі блізкіх соснаў. Міжволі ўзнікаюць думкі: хто і адкуль гэтыя людзі, пахаваныя ў брацкай магіле? Якой парою бурлівага 1863 года гэта было? Як праходзіў бой паўстанцаў з царскімі карнікамі? Хто кіраваў паўстанцамі ў баі?

На гэтыя пытанні я пастараўся пашукаць адказы ў архівах...

Паўстанне 1863 года ў Беларусі і Літве вельмі напалохала цара, царскіх вяльмож і іх верных служкаў. На яго падаўленне цар паслаў амаль 200-тысячнае войска. А ва ўсіх паўстанцкіх атрадах было не больш як 20 тысяч чалавек, узброеных паляўнічымі стрэльбамі, косамі, віламі і сякерамі, а то і дубінамі.

Але паўстанцы смела ўступалі ва ўзброеныя сутычкі з выдатна ўзброенымі царскімі войскамі і нярэдка перамагалі іх нават у адкрытых баях. Сілу паўстанцам давала тое, што яны змагаліся за праўду, за зямлю і волю. Такім быў і крывавы, упарты бой, які разгарэўся 24 мая 1863 гада ў лесе ля вёскі Ласасіны.

Аб ім распавядае дакумент, які захоўваецца ў Маскоўскім цэнтральным ваенна-гістарычным архіве. Дарэчы, ён, як і многія іншыя, змешчаны ў кнізе «Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863 — 1864 гадоў. Матэрыялы і дакументы». (Выдавецтва «Наука», М., 1965 г. ). Вось што ў ім гаворыцца:

«1863 год, мая 28. Рапарт пружанскага ваеннага начальніка маёра Крэмера камандуючаму войскамі ў Гродзенскай губ. З. С. Манюкіну аб адшуканні паўстанцкіх атрадаў і бітвах з імі.

(...) Прайшоўшы без адпачынку каля 30 вёрст у 3 з паловай гадзіны папалудні дагнаў шайку Слонімскага павета ў Ружанскай казённай дачы, ва ўчастку Пагарэлае, дзе быў пастаўлены паўстанцам конны пікет, з якога адзін быў схоплены, а ў 3 вёрстах у палосах дрыгвы, у гразкіх непраходных месцах, за невялікім ручайком, у густой засені лісцёвых дрэў выстаўлены быў паўстанцамі стралковы ланцуг, у якім некаторыя стралкі сядзелі на дрэвах. Выслаўшы наперад 3-ю стралковую роту ў ланцуг з 3 паўзводамі рэзерваў 9 роты, рабіў наступленне. Стралкі, падышоўшы да варожага ланцуга на адлегласць 50 крокаў, сустрэты былі густой стральбой, асабліва пры падбадзёрванні паўстанцаў кіраўнікамі шайкі, каб не адступаць, між якімі чуваць былі галасы: «Панове, храбрэй, іх бардзо мало, адна рота стрэльцаў, мы іх вшысткіх паб'ём!» Хочучы выманіць варожых стралкоў з густога лесу, я загадаў свайму ланцугу адступаць. Інсургенты, падбадзёраныя гэтым, кінуліся наперад, але былі спынены трапнымі стрэламі нашых стралкоў, варожы ланцуг заняў першапачатковую пазіцыю. Не маючы магчымасці выбіць, выстраламі іх з пазіцыі, я загадаў ісці ў атаку, і стралкі з лютасцю кінуліся ў гушчыню лесу, адкінулі варожы ланцуг, і ён, адступаючы бягом, заняў другую пазіцыю, за невялікай палянкай, дзе касінеры спрабавалі спыніць нашых стралкоў, але, сустрэтыя трапнымі стрэламі, спяшаючыся, адступілі за свой ланцуг. Раптоўна пачуліся бакавыя стрэлы, і казачы ўраднік, падляцеўшы да мяне, заявіў, што вораг робіць абход з левага боку. Умацаваўшы абодва флангі рэзервамі 9 роты, падаў сігнал наступлення, і паўстанцы пры адступленні рабілі спробы 8 разоў кідацца наперад з крыкамі «ўра», але кожны раз агонь стралкоў і часці 9 роты прымушалі іх уцякаць і хавацца ў густым лесе, а мы пачалі рабіць бесперапыннае наступленне...

(...) У 7 гадзін паўстанцы ў беспарадку малымі часткамі ад 3 да 5 чалавек і паасобку сталі разбягацца ва ўсе бакі, ужо не адказваючы на наш агонь і, кідаючы зброю, зусім схаваліся ў непраходнай дрыгве, прымыкаючай з левага боку да возера, за 4 вярсты ад вёскі Ласасіны, таксама і кіраўнікі шайкі паасобку выратаваліся ўцёкамі. Бачачы, што зусім марна праследаваць часткі разбітай шайкі, я палічыў патрэбным даць адпачынак і прывесці ў парадак атрад. Сабраўшы роты, прайшоў 14 вёрстаў у м. Ружаны, дзе адпачываў і пахаваў з цырымоніяй забітых ніжніх чыноў...

(...) Страты паўстанцаў павінны быць значнымі, на адным левым крыле налічылі казакі 127 трупаў, у ліку забітых — вайсковы лекар Каліноўскі і многія іншыя асобы, якія па выгляду і вопратцы не з простага звання. У паўстанцаў узяты ў палон беластоцкі памешчык Рафаіл Карыцкі. Атрад гэты да 700 чалавек пешых і 40 коннікаў складаўся з памешчыкаў, шляхты, чыноўнікаў, мяшчан, гімназістаў Беластоцкай, Гродзенскай і Свіслацкай гімназій, адстаўных салдат і часткова з дзяржаўных сялян, меў правільную арганізацыю, г. зн. разлічаны на роты. Галоўны кіраўнік інсургентаў і камісар ваяводства Гродзенскай губерні эмігрант Ануфры Духінскі, адстаўны палкоўнік, які прыбыў з Парыжа...»

На самай справе, як сведчаць архіўныя дакументы, боем паўстанцаў кіраваў не адстаўны палкоўнік Духінскі, які ў пачатку бою быў адрэзаны казакамі ад асноўных сіл паўстанцаў і не прымаў удзелу ў бітве, а паплечнік і шчыры сябра Кастуся Каліноўскага — Валерый Урублеўскі.

Адносна страт паўстанцаў у гэтай бітве царскі служка Крэмер у пагоні за чынамі і ўзнагародамі заняўся яўным ашуканствам. З яго рапарта відаць, што толькі на левым крыле бою казакі налічылі 127 забітых паўстанцаў. А яшчэ ж было і правае крыло! А на абеліску напісана, што ў магіле пахавана 40 паўстанцаў.

Калісьці расказваў мне стары селянін з вёскі Ласасіны, што два паўстанцы пасля гэтага бою схаваліся ў Ласасінскім маёнтку ў стозе саломы. Казакі старанна шукалі паўстанцаў, прабіваючы пікамі і шаблямі салому. Яны нават прабілі аднаму паўстанцу нагу, але ён, нягледзячы на вострую боль, не падаў голасу.

Як мы бачым, звесткі архіўнага дакумента не аб'ектыўныя, у ім многа хлусні. Але, тым не менш, ён — яркае сведчанне вялікай мужнасці і ахвярнасці паўстанцаў у іх мужнай і цяжкай барацьбе.

**М. ПЯНКО,**
**настаўнік-пенсіянер.**
Пружанскі р-н,
вёска Клепачы.




«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

Літаратура і Мастацтва

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.**